3ок-2/105 21

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦККП/б/Б

ЧЭРВЕНЬ

№ 2

ДВБ 1932
ПАРТМАССЭКТАР

Б 95

*ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ*

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

Інв. № 1953 г. Б 1007.

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

№ 2

ЧЭРВЕНЬ 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ




ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР

МЕНСК

# МАРКСЫСЦКА-ЛЕНІНСКАЕ ВЫХАВАНЬНЕ НА ЎЗРОВЕНЬ ЗАДАЧ СУЧАСНАГА ЭТАПУ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

Марксысцка-ленінскае выхаваньне партыйных мас і комсамолу на новым этапе, на парозе пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва, пры ўмовах усё ўзрастаючага міжнароднага рэволюцыйнага руху набывае асабліва значэньне.

«Новыя посьпехі соцыялізму рабочая кляса забясьпечыць толькі ў барацьбе з рэшткамі капіталізму, даючы бязьлітасны адпор супраціўленьню капіталістычных элемэнтаў, якія гінуць, перамагаючы буржуазныя і дробнабуржуазныя прадрассудкі сярод працоўных і вядучы настойлівую работу па соцыялістычным іх перавыхаваньні» (З пастановы XVII партконфэрэнцыі).

Гэтыя задачы патрабуюць ад усіх зьвеньняў КП(б)Б узьняцьця марксысцка-ленінскага выхаваньня партыйных мас на больш высокую ступень, каб на аснове аўладаньня марксысцка-ленінскай рэволюцыйнай тэорыяй і аўладаньня нацыянальнай культурай, пролетарскай па зьмесьце і нацыянальнай па форме, перавыхаваць шырокія працоўныя масы ў сьвядомых работнікаў бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва.

Сакавіцкі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б, даючы характарыстыку сучаснага пэрыоду, адзначыў, што:

«У гэтых умовах асабліва важнае значэньне набывае далейшая работа па падвышэньні ідэйна-політычнага ўзроўню, па ўзмацненьні марксысцка-ленінскага выхаваньня ўсіх членаў партыі, комсамолу, у першую чаргу маладых, новапаступаючых у партыю і комсамол, шляхам больш глыбокага вывучэньня гісторыі нашай партыі, асноўных прынцыпаў ленінізму, усваеньня вучэньня Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна».

Марксысцка-ленінскае выхаваньне—гэта ня толькі справа Культпропу, гэта справа ўсіх партыйных комітэтаў, усіх партыйных організацый.

Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на якасьць выкладаньня, сваячасова рэагаваць і папярэджаваць узьнікненьне фактаў ідэолёгічных скажэньняў на занятках.

На аснове бесьперапыннага навучальнага году трэба пераключыцца на летнія формы работы. Зараз-жа павінны быць распрацаваны мерапрыемствы па ўзмацненьні сеткі на летні час, трэба ліквідаваць дэмобілізацыйныя настроі аб спыненьні вучобы да восені. Побач з трохмесячнымі школамі неабходна шырока разгарнуць новыя масавыя формы партвучобы: сэмінары ўдарнікаў, кароткатэрміновыя курсы нізавога актыву, гурткі бягучай політыкі, дэкадныя, пяцідзённыя школы, ударныя дні вучобы і т. д.

Работу сеткі партасьветы трэба перавесьці на рэльсы соцспаборніцтва і ўдарніцтва, разгортваючы гэты мэтод унутры кожнага прадпрыемства, саўгасу, колгасу, МТС і паміж імі, як адну з асноўных умоў падняцьця якасьці работы па марксысцка-ленінскім выхаваньні.

Шэсьць умоў тав. Сталіна знайшлі яшчэ недастатковае адлюстраваньне ў галіне марксысцка-ленінскага выхаваньня. Няма належнай гібкасьці ў справе сваячасовай ліквідацыі адсеву. Адсутнічае пастаянны і дакладны ўлік ахопу партыйцаў і комсамольцаў рознымі відамі марксысцка-ленінскага выхаваньня. Адсутнічае вывучэньне новых рабочых папаўненьняў па соцыяльным паходжаньні, агульнай і політычнай пісьменнасьці, нацыянальным складзе і т. д. Гэта буйнейшыя недахопы ў сэнсе конкрэтнага і опэратыўнага кіраўніцтва на важнейшых вучастках марксысцка-ленінскага выхаваньня, трэба ліквідаваць у найкарацейшы тэрмін, павысіўшы ініцыятыву па рэалізацыі гістарычных умоў правадыра партыі—тав. Сталіна ва ўсёй сыстэме прапагандысцкай работы.

Партыйныя ячэйкі разам з прапагандыстамі павінны ведаць асабістыя якасьці кандыдата партыі, рэагаваць на недастатковы тэорэтычны рост кожнага з іх, выяўляць фармальныя адносіны да вучобы і выдзяляць у вышэйшыя зьвеньні партсеткі ўдарнікаў партвучобы. Барацьба з цякучасьцю і адсевам слухачоў і да

гэтага часу застаецца слабым мейсцам. Неабходна рашуча змагацца за ўзмацненьне дысцыпліны і чоткасьць у рабоце партшкол.

Організацыйнае і якаснае ўзмацненьне сеткі партасьветы ўсіх відаў—адна з важнейшых задач на фронце прапаганды. Вывучэньне сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва, зьместу і форм клясавай барацьбы неабходна падняць на належную вышыню. Нельга зводзіць задачы марксысцка-ленінскага выхаваньня да аднэй школьна-гуртковай формы вучобы. Гэта форма вельмі важная, але вучыць і выхоўваць трэба і на вопыце штодзённай практыкі соцыялістычнага будаўніцтва, увязваючы гэту практыку з тэорыяй.

Вялікае значэньне набывае падрыхтоўка прапагандыстаў не «наогул». а дыфэрэнцыявана: рабочых, саўгасных, колгасных прапагандыстаў. Дэфэрэнцыяваны падыход павінен быць і ў самой сыстэма выхаваньня. Неабходна ўлічваць умовы пасобных галін вытворчасьці (прымысловасьць, сельская гаспадарка, транспорт, новабудоўлі), вытворча-бытавыя ўмовы і іх асабліваcьці: старыя рабочыя, новыя рабочыя, жанчыны, колгасьнікі; агульна-адукацыйную і політычную падрыхтоўку і т. д.

Марксысцка-ленінскае выхаваньне сярод нацыянальных меншасьцяй, забясьпечаньне іх прапагандыстамі і падручнікамі на роднай нацыянальнай мове — павінна быць разгорнута значна шырэй. Асабліва вялікая работа па перабудове сеткі партасьветы патрабуецца ад парторганізацыі Койданаўшчыны, як польскага нацыянальнага раёну.

Сакавіцкі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б падкрэсьліў неабходнасьць:

> «зьвярнуць асаблівую ўвату пры разгортваньні марксысцка-ленінскай вучобы на поўны ахоп кандыдатаў партыі, старанны падбор прапагандысцкіх кадраў, рашучае паляпшэньне якасьці партыйнай вучобы і спалучэньне партвучобы з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва».

Гэта дырэктыва аб поўным ахопе кандыдатаў партыі марксысцка-ленінскай вучобай павінна быць выканана. Усім організацыям КП(б)Б неабходна мобілізаваць вакол задач марксысцка-ленінскага выхаваньня ўсіх комуністаў, беспартыйных рабочых і

колгаснікаў для падняцьця работы сеткі партасьветы на вышыню сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Яшчэ больш узьняць бояздольнасьць слухачоў партасьветнай сеткі ў барацьбе за ажыцьцяўленьне чарговых задач партыі, рашуча перамагаючы ўсякія праяўленьні правага опортунізму, які застаецца галоўнай небясьпекай на даным этапе, «лявацкіх» загібаў і прымірэнцтва да іх, — **такая асноўная задача ў галіне па**тыйнай асьветы, якая павінна ажыцьцяўляцца на падставе генэральнай лініі партыі, у барацьбе з трацкісцкай контрабандай, у змаганьні за партыйнасьць навукі, за аўладаньне тэорыяй Маркса, Леніна, Сталіна.

## ТЭХПРОПАГАНДА

**Пісман і Гіршгорн**

## 1. СТВАРАЕМ КАДРЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ [1])

Год назад правадыр партыі тав. Сталін высунуў 6 рашаючых умоў перамогі.

Правяраючы ажыцьцяўленьне аднэй з баявых умоў—падрыхтоўку кадраў і аўладаньне тэхнікай на заводзе «Комунар»,—мы констатуем значныя дасягненьні.

Да організацыі на заводзе тэхнікуму існавалі курсы павышэньня кваліфікацыі майстроў. Курсы ставілі вузкую мэту—павышэньне агульна-асьветных ведаў. Належнай увязкі тэорыі з вытворчымі процэсамі на курсах ня было.

Пасьля некалькіх месяцаў вучобы гэтыя курсы развальваліся. Гэты малюнак паўтараўся на працягу некалькіх год. Такое становішча прымусіла заводзкія організацыі паставіць у мінулым годзе пытаньне аб неабходнасьці організацыі на заводзе некаторай цэльнай сыстэмы рабочай асьветы. Пасьля абмеркаваньня гэтага пытаньня спыніліся на організацыі заводзкага тэхнікуму, які і быў організован у кастрычніку мінулага году.

Базай тэхнікуму зьяўляецца машынабудаўнічы завод «Комунар», які вырабляе об'екты сярэдняга машынабудаўніцтва. У момант організацыі тэхнікуму на заводзе працавала рабочых, служачых і ІТР—1.100 чал.

---

[1]) Друкуючы артыкул т. т. Пісман і Гіршгорн аб пастаноўцы тэхвучобы на заводзе „Комунар“ (Менск), рэдакцыя заклікае парторганізацыі і іншых заводаў, саўгасаў, колгасаў падзяліцца вопытам тэхпропаганды на старонках журналу „За ленінскую вучобу“. Адначасова, як буйны недахоп, які не знайшоў адлюстраваньня ў артыкуле, рэдакцыя адмячае падмену партпропаганды тэхвучобай на заводзе „Комунар“. (Глядзі матэрыялы абсьледваньня партвучобы па г. Менску ў даным нумару „За ленінскую вучобу“).

Тэхнікум ставіць сваёй мэтай—не адрываючы рабочых ад вытворчасьці, рыхтаваць тэхнікаў гарачай і халоднай апрацоўкі мэталю, як прорабаў вытворчасьці, так і кіраўнікоў цэхаў.

Групы тэхнікуму былі організаваны па цэхавым і зьменным прынцыпе. Вучэбныя пляны і вытворчая практыка павінны быць прыстасаваны да кожнай групы паасобку.

Тэхнікум у асноўным складаецца з чатырох курсаў, а іменна: першы курс, на які прымаліся рабочыя з ведамі ў аб'ёме пяцігодкі, з тэрмінам навучаньня ў 40 месяцаў; другі—на які прымаліся рабочыя з ведамі за 6 груп сямігодкі з тэрмінам навучаньня ў 36 месяцаў; трэці—рабочыя з ведамі ў аб'ёме сямігодкі з тэрмінам навучаньня ў 32 месяцы; на чацьвертым курсе займаліся дзьве групы майстроў. Програма разьлічана для першай групы майстроў—у 28 месяцаў вучобы, а для другой групы—22 месяцы. Ёсьць таксама адна група скончыўшых профшколы і ФЗВ, якая лічыцца на правох ФЗТГ, якім даецца програма навучаньня ў 17 месяцаў.

Трэба адзначыць, што ва ўказаныя тэрміны не ўваходзіць практыка на вытворчасьці, якая разьлічана для кожнага курсу і кваліфікацыі кожнага студэнта паасобку, і абавязкова для ўсіх. Прадугледжана таксама вытворчая практыка па-за заводам.

Паводле пляну маецца на ўвазе, як тэхнолёгічная вытворчая практыка па ўсіх цэхах заводу, так і штодзённае навучаньне, інструктаж студэнта тэхнікуму на яго рабочым месцы з боку спэцыяльнага школьнага інструктару. Такі інструктаж будзе значна спрыяць павышэньню кваліфікацыі студэнтаў тэхнікуму, належнаму разуменьню работы і, бязумоўна, будзе садзейнічаць выкананьню заводам прамфінпляну.

Аднэй з асноўных мэт, якія ставіць тэхнікум, зьяўляецца таксама пастаноўка пэўнай партыйна-выхаваўчай работы, якая зьяўляецца неадлучнай часткай навучальных плянаў. Соцыяльна-эканомічныя дысцыпліны ў заводзкім тэхнікуме паявлічаны супроць плянаў іншых тэхнікумаў. Вызначана па соцыяльна-эканомічным цыкле па розных групах ад 384 да 631 гадзін, што складзе ад 18 да 23 проц. да ўсяго навучальнага пляну. У вучэбным пляне вызначана таксама пэўная колькасьць гадзін на бягучую політыку.

Трэба, аднак, прызнаць, што ў гэтым годзе мы маем на гэтым фронце прарыў. Соцыяльна-эканомічныя дысцыпліны ня

былі пастаўлены на належную вышыню, асабліва ў сэнсе якасьці і мэтодыкі выкладаньня.

Належная ўвага аддана беларускай мове. З гэтым пытаньнем справа ўскладняецца з прычыны таго, што рабочыя, якія паступаюць у тэхнікумы, недастаткова падрыхтаваны і таму прыходзіцца нават у старэйшых групах пачынаць з правапісу.

Тэхнікум забясьпечаны адпаведнымі выкладчыкамі агульнатэхнічных і спэцыяльных дысцыплін. Анак, для большасьці выкладчыкаў работа ў тэхнікуме зьяўляецца дадатковай да іх асноўнай работы і, зразумела, тэта адчуваецца. Выкладчыкі не дапамагаюць тэхнікуму ў дастатковай меры ў штодзённай рабоце, а таксама рабоце па ажыцьцяўленьні неабходнай тэхнікуму ўвязкі тэорыі з работай рабочага на вытворчасьці. Выходзячы з гэтага, трэба зараз-жа паставіць пытаньне аб цьвёрдых пэдкадрах для тэхнікуму.

Як бачым, тэты заводзкі вячэрні тэхнікум адрозьніваецца ад іншых тэхнікумаў тым, што ўся вучоба непасрэдна зьвязана з вытворчасьцю заводу і работай кожнага студэнта паасобку. Вучоба прыстасавана да зьмен, што дае магчымасьць займацца бесьперабойна. Тэхнікум папулярызаваны сярод рабочых, ён знаходзіцца на заводзе.

Адзначаючы ўсе гэтыя дадатныя бакі ў рабоце тэхнікуму, трэба з усёй рашучасьцю выявіць недахопы, якія ёсьць у рабоце тэхнікуму.

Вучэбныя пляны, праўда, прадугледжваюць вытворчую практыку, як у часе вучобы без адрыву ад вытворчасьці, так і 2—3 месяцы практыкі, у залежнасьці ад груп, перад сканчэньнем тэхнікуму. Але ў самой сыстэме навучаньня вытворчая кваліфікацыя студэнта да гэтага часу дастатковага адлюстраваньня не знайшла і пытаньне гэта да гэтага часу ў дастатковай ступені не распрацавана.

Сыстэма не ўключае ў сваю арбіту ўсёй масы рабочых, якія ня маюць магчымасьці вучыцца ў тэхнікуме і для якіх мэтазгодна стварэньне мэтавых гурткоў і організацыя іншых відаў масавага тэхнічнага навучэньня.

Указаная сыстэма, даючы цьвёрдую канчатковую ўстаноўку—выпуск тэхнікаў па халоднай і гарачай апрацоўцы мэталю—ярка не выяўляе прамежных мэтавых установак (кваліфікаваны рабочы, брыгадзір, майстар—кваліфікацыі, якія слухач

павінен атрымліваць па меры праходжаньня пэўнага аб'ёму ведаў).

Намечаны намі профіль спэцыялістаў, якіх павінен выпусьціць тэхнікум, цьвёрдых падстаў ня мае ў сувязі з тым, што ні з боку Мэталяаб'яднаньня, ні з боку Цяжпраму (былога ВСНГ), а таксама і з боку аддзелаў кадраў заводу няма пэўных заявак аб патрэбнасьці ў тэхнічных кадрах з колькаснага і якаснага боку.

Сур'ёзным недахопам было тое, што пры арганізацыі тэхнікуму былі залічаны непасрэдна ў тэхнікум рабочыя з рознай падрыхтоўкай. Праверка ведаў была павярхоўнай і потым аказалася, што ўзровень ведаў у некаторай часткі быў вельмі нізкі. Перавесьці ўжо прынятых у тэхнікум студэнтаў у арганізаваную першую ступень было немагчыма і ўдалося арганізаваць толькі невялікую падрыхтоўчую групу.

Перабудова работы тэхнікуму намечана намі ў наступным напрамку.

Асноўным рэзэрвам, які павінен жывіць усю сетку нашай вучобы, павінны стаць побач з рабочымі заводу «Комунар» і рабочыя заводу «імя Варашылава», заводу «Ударнік», з ахопам рознага віду вучобай больш, як 400 чалавек.

Пры гэтым будуць навучацца наступныя катэгорыі рабочых: малапісьменныя, некваліфікаваныя рабочыя, якія пераводзяцца на кваліфікаваную работу, практыкі, якія займаюць адміністрацыйна-тэхнічныя пасады, усе ўноў паступіўшыя на завод рабочыя, якія ня маюць кваліфікацыі, або маюць ніжэйшую кваліфікацыю.

Першай стадыяй навучаньня, абавязковай для ўсіх рабочых і служачых, што паступаюць на завод, зьяўляюцца ўводныя курсы. Уводныя курсы працуюць па асобнай праграме ў 24 гадзіны.

Яны ставяць сабе наступную мэту: прапусьціць у парадку паступовасьці ўвесь наяўны склад рабочых і служачых заводу.

Уся вучоба будзе разьбівацца ў нас на комбінаце на тры ступені. Асноўным ядром зьяўляецца другая ступень—тэхнікум, які мае пад сабой базу—першую ступень, у выглядзе падрыхтоўчых курсаў да тэхнікуму. Падрыхтоўчыя курсы маюць мэтай даць агульна-асьветную і тэхнічную падрыхтоўку для паступленьня ў тэхнікум. Адначасова прасьледуюцца яшчэ дзьве мэты—даць ра-

бочаму кваліфікацыю 3—4 разраду і даць элементарныя тэхнічныя веды па тэхнолёгіі, графіцы, спэцсправе, якія неабходны тэхнічна-пісьменнаму рабочаму адпаведнага разраду.

Вышэйуказаныя курсы, выходзячы з адзначанай установкі, намячаюцца двух відаў— Б 1 і Б 2. Для асоб, якія маюць кваліфікацыю 2—3 разраду—Б 1, і для асоб, якія ня маюць ніякай кваліфікацыі—Б 2. Некваліфікаваныя рабочыя павінны набыць на курсах Б 2 побач з адпаведнымі ведамі кваліфікцыю 2-га разраду і потым мэханічна пераводзяцца на падрыхтоўчы курс кваліфікаваных рабочых Б 1, дзе павышаюць сваю кваліфікацыю да 3—4 разраду, а таксама прадаўжаюць сваю вучобу. Абодвы віды курсаў складаюцца з раду зьвеньняў у залежнасьці ад агульна-асьветнай падрыхтоўкі слухачоў, пачынаючы ад няпісьменных і малапісьменных і канчаючы сямігодкай. Тэрмін навучаньня на курсах залежыць ад таго, у якое зьвяно можа паступіць рабочы па сваіх ведах.

Што датычыцца другой ступені тэхнікуму, дык структура яго ў асноўным астаецца ранейшай. У тэхнікуме астаюцца 3-я група сьлесароў, якая будзе другім курсам тэхнікуму. Таксама ў тэхнікуме астаюцца цяперашнія другія групы сьлесароў, такароў і ліцейшчыкаў, якія будуць складаць першы курс тэхнікуму. У складзе тэхнікуму астаюцца таксама групы майстроў, астаецца адна паскораная група скончыўшых прафшколу на правох ФЗТГ.

Вучэбны плян нормальных груп разьлічаны на 27 месяцаў вучобы тэорэтычнай і 3 месяцы практыкі з вызваленьнем ад вытворчасьці. Усяго намячаецца 2.630 гадзін. Звыш гэтага часу маецца на ўвазе праходжаньне практыкі на заводзе, як ужо ўказвалася вышэй. Тэрмін навучаньня ў падрыхтоўчых групах тэхнікуму астаецца вышэйуказаны.

Комбінат павінен будзе таксама абслугоўваць і групу завочнікаў, вучоба якіх павінна ўвязвацца ў агульную сыстэму.

Зразумела, існаваньне комбінату не выключае стварэньня розных мэтавых курсаў, якія прадугледжваюцца нашай сыстэмай, а наадварот, комбінат або тэхнікум павінен дапамагчы разгортваньню тэхнічнай пропаганды на мэталяапрацоўчых заводах, якія ён будзе абслугоўваць, дапамагаючы ў рабоце мэтавых гурткоў.

Ня гледзячы на цяжкасьці і на тыя значныя недахопы, якія мелі месца ў рабоце, тэхнікум ужо сябе апраўдаў. 120 чалавек заводу «Комунар» прайшлі вучэбны гадавы плян.

Тэхнікум, а з ім і сыстэма рабочай асьветы на заводзе заваявалі пэўны аўторытэт. Ёсьць масавае імкненьне сярод рабочых да павышэньня сваіх тэхнічных ведаў.

Мэтазгоднасьць існаваньня тэхнікуму з фінансавага боку і рэнтабельнасьць яго паказваюць наступныя лічбы: на існаваньне тэхнікуму адпушчана 107.000 руб. на 1932 г., з іх на новае абсталяваньне—каля 60.000 руб., што ў параўнаньні з курсамі толькі на 30 асоб, на стыпэндыю якіх выдаткоўваецца 108.000 руб., зьяўляецца нязначнай сумай. Апрача таго, трэба прыняць пад увагу, што за гэты год мы выпускаем 17 тэхнікаў. Групы брыгадзіраў і майстроў праз год таксама заканчваюць курс навучаньня, адначасова паднімаецца ўзровень кваліфікацыі і адукацыі многіх рабочых, популярызуецца тэхніка і тэхвучоба. Апрача таго, трэба ўлічыць і тую экономію, якая дасягаецца тым, што студэнты не адрываюцца ад вытворчасьці і ўсе гады вучобы даюць непасрэдную матэрыяльную продукцыю дзяржаве.

Трэба адзначыць, што тэхнікум мае абсталяваны прыборамі і рэактывамі, прыборамі для чарчэньня і дэталямі машын фізычны габінэт, тэхнічную бібліятэку. Набыта поўнае абсталяваньне для хімічнага габінэту.

Пэўныя дасягненьні ёсьць, але на гэтым нельга спыніцца. Трэба зараз-жа сур'ёзна заняцца пытаньнем перабудовы работы і стварэньня спрыяючых умоў для работы комбінату ў наступным навучальным годзе.

---

Брыгадзір

## З МАТЭРЫЯЛАЎ АБСЬЛЕДВАНЬНЯ ПАРТАСЬВЕТЫ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ г. МЕНСКУ

Забясьпечанасьць менскай арганізацыі кваліфікаванымі прапагандыстамі (асьпірантура, Комвуз) і вялікім кадрам партактыву ствараюць добрыя ўмовы для разгортваньня марксысцкаленінскага выхаваньня, у прыватнасьці партыйнай асьветы, як аднаго з галоўнейшых зьвеньняў бальшавіцкага выхаваньня. На радзе прадпрыемстваў партсетка працавала здавальняюча, але побач з дасягненьнямі мелі месца і зрыў партвучобы на швэйнай ф-цы «Кастрычнік» (1.500 рабочых), на хлебазаводзе (500 рабочых), на партколектыве Менбуду (звыш 1.000 рабочых), служба цягі (540 рабочых); нездавальняючае становішча партасьветы на заводзе імя Варашылава; падмена партасьветы тэхвучобай на заводзе «Комунар». Зусім не разгорнута партасьвета на Міхановіцкім торфозаводе. Нерэалізавана дырэктыва аб абавязковасьці вучобы ўсіх кандыдатаў партыі; недастатковы ахоп членаў партыі і комсамолу партсеткай; нездавальняючая якасьць партвучобы ў некаторых зьвеньнях партвучобы; не разгорнуты летнія формы вучобы ва ўсіх абсьледаваных прадпрыемствах. Галоўнай прычынай такога становішча зьяўляецца опортуністычная недаацэнка з боку парторганізацый указаных прадпрыемстваў марксысцкаленінскага выхаваньня. Пануе ўраўнілаўка, якая выражаецца, папершае, у тым, што вучоба ў вядучым цаху, брыгадзе ня выдзелена як паказальная, па-другое—работа з кандыдацкім складам партыі ня выдзелена, як важнейшае і асобнае зьвяно партсеткі, да якога павінна быць праяўлены асаблівыя штодзенныя клопаты. Пануе абязьлічка, якая выражаецца, па-першае, у тым, што парторганізацыі дрэнна ведаюць сваіх пропагандыстаў, па-другое—парторганізацыі і пропагандысты ня выконваюць дырэктывы

«вывучэньня асабістых якасьцяй кандыдата» (статут партыі), прапагандысты ня прысутнічаюць пры пераводзе кандыдатаў ў члены і т. д. Дрэнна наладжана сваячасовая сыгналізацыя аб прарывах, недахопах і зрыве партвучобы.

На абсьледваных прадпрыемствах г. Менску становішча марксысцка-ленінскага выхаваньня характарызуецца: недастатковым ахопам членаў партыі, асабліва кандыдатаў, а таксама комсамолу партасьветнай сеткай, недастатковым кіраўніцтвам з боку партколектываў партыйнай асьветы, ня гледзячы на неаднаразовыя дырэктывы Гаркому, несваячасовай сыгналізацыяй і наладжваньнем партасьветы з боку культпропу ГК. Аб гэтым сьведчыць наступны матэрыял:

1. Завод імя Варашылава (1.053 рабочых). У часе абсьледваньня сетка партасьветы ўжо фактычна не існавала, хаця і ня быў арганізаваны выпуск. У некаторых групах нават было заяўлена, што програма ўжо пройдзена і што заняткі спыняюцца. Адказны за партасьвету на заводзе тав. Рабіновіч ня ведаў аб гэтым, і сканчэньне заняткаў ішло самацёкам міма яго. У маі па ўсёй сетцы заняткаў ня было.

Ахоп сеткай нездавальняючы, асабліва кандыдатаў, комсамольцаў і б/п (членаў партыі—43 проц., кандыдатаў—49 проц., комсамольцаў—23 проц.). «Зрывы ў партвучобе мелі месца на працягу ўсяго году. Школы працуюць дрэнна, якасьць вучобы таксама дрэнная, ёсьць прагулы, зрывы заняткаў па віне ячэек і з-за няяўкі пропагандыстаў... ...партячэйкі амаль нічога ня робяць, ...культпропы ячэек, сэкратары мала цікавяцца, ...некаторыя партячэйкі разважаюць, што беспартыйныя ня хочуць вучыцца... але выявілася, што большасьць беспартыйных ня ведае аб занятках школ... на бюро пытаньне аб партвучобе ніколі не стаяла»... (Завадзкая шматтыражка «Варашылавец»).

У нумары ад 24/І-32 г. «Варашылаўца» чытаем: «у кацёльным і ліцейным цахох політвучоба сарвана. У кацёльным цэху з 19 партыйцаў і 34 комсамольцаў партшколу наведваюць 5—8 чалавек. Партыйнага кіраўніцтва комсамольскай вучобы няма. Па слесарна-зборачным цаху з 32 комуністаў наведваюць школу—10. Сакратар ячэйкі нічога ня ведае аб становішчы школы». Заводзкая шматтыражка пачала сыгналізаваць аб зрывах па партасьвеце, але не давяла справу да канца, ня здолела арганізаваць грамадзкасьць на выкананьне дырэктыў аб партыйнай асьвеце.

Бюро партколектыву недастаткова ўдзяляе ўвагі партасьвеце. У выніку дрэннай пастаноўкі марксысцка-ленінскага выхаваньня пратэрміноўка кандыдацкага стажу зьяўляецца правілам, а не выпадковасьцю, аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы кандыдатаў з пратэрмінаваным стажам: з 1929 г.—5 чал., з 1930 г.—20 чал., 1931 г.—107 чал., з 1932 г.—8 чал. (усе гэтыя кандыдаты-- рабочыя).

У часе гутаркі ў кацельным цаху на запытаньне, дзе зараз цыгане, якія працавалі на заводзе, адзін рабочы сказаў: «былі, але цяпер пайшлі красьці коняй». Ніякай работы з нацменшасьцямі на іх роднай мове не праводзілася. Адказны за партвучобу на заводзе Рабіновіч не аказаў дастатковага садзейнічаньня абсьледваньню. Некалькі разоў была дагаворанасьць аб тым, каб ён організаваў у часе абсьледваньня заняткі школ для правядзеньня гутаркі з слухачамі, з мэтай выяўленьня, як яны ўсвоілі пройдзены курс, але заўсёды гэта зрывалася іншымі заняткамі.

2. Хлебазавод (каля 500 рабочых). Каля 80 проц. рабочых зьяўляюцца новымі, якія нядаўна прышлі на завод. Палітычны ўзровень рабочых нізкі. Малапісьменных звыш 50 проц. Ёсьць няпісьменныя. Палітпадрыхтоўка большай часткі членаў і кандыдатаў слабая. На заводзе было організавана 5 першапачатковых школ, з іх 3 распаліся ў хуткім часе пасьля організацыі (у лютым мес.). У сувязі з зьездам кіраўнікоў, зусім дрэнна працуюць 2 астатнія. Ахоп членаў, кандыдатаў, комсамольцаў і беспартыйных нездавальняючы. У сьнежні ахоп членаў і кандыдатаў—34 проц., комсамольцаў—3 проц. Наведваньне амаль увесь час было дрэннае (6—8 чал. у групе). Зараз на хлебазаводзе існуе «Профпалітвучоба», куды згодна інформацыі сакратара партколектыву «уцягваюцца таксама члены і кандыдаты партыі». Гэта дае магчымасьць сакратару партколектыву лычыць, што партвучоба на заводзе наладжана значна лепш, чымся раней. Профпалітвучоба праходзіць нерэгулярна, уліку наведваньня няма. Прычынай дрэннага становішча партасьветы зьяўляецца дрэннае кіраўніцтва з боку бюро партколектыву. Тры разы бюро партколектыву абгаворвала і констатавала, што ў гэтай справе ёсьць зрыў і выносіліся агульныя пастановы «наладзіць», «уцягнуць», але праверкі выкананьня ня было і становішча пагаршалася.

24/III бюро партколектыву прыняло пастанову «да прапрацоўкі XVII партконфэрэнцыі і XIV зьезду КП(б)Б яшчэ не пры-

ступілі», «трэба разгарнуць работу па ахопе вучобай усіх членаў і кандыдатаў, на чарговым паседжаньні заслухаць аб выкананьні», але так і не заслухалі. Сакратар партколектыву т. Штэйнгарт ня толькі не аказваў ніякай дапамогі ў часе праверкі, але нават і перашкаджаў гэтай рабоце (не зьяўляўся ў вызначаныя гадзіны, ня выдзяліў брыгады для дапамогі брыгадзіру).

2-х дэкаднік агляду работы з новымі папаўненьнямі, якія праводзіўся раней, быў сорваны. Брыгадзір адзін раз зьявіўся і больш ня прыходзіў. Ні ячэйка, ні Культпроп ГК не рэагавалі на гэта.

3. Ф-ка «8 сакавіка» (430 рабочых, 150 абслужваючага пэрсоналу). Новае папаўненьне рабочых—гэта ў большай сваёй частцы саматужнікі, з вёскі і мястэчак. Палітычная пісьменнасьць надзвычайна нізкая. Партколектыў налічвае 37 членаў і 18 кандыдатаў, комсамольцаў—160 чал.

У сучасны момант уся сетка партыйнай асьветы фактычна распалася. ВСПШ, у сувязі з неабходнасьцю організаваць тэхвучобу, была рэорганізавана ў тэхкурсы, што парушае партыйныя дырэктывы аб тым, што нельга замяняць тэхвучобай партасьвету. Сваіх пропкадраў няма і іх не рыхтавалі.

Па пытаньні аб пераходзе сеткі на летнія формы вучобы, ячэйкай нічога ня зроблена, таксама нічога ня зроблена ў адносінах апошняй пастановы аб абавязковым навучаньні ўсіх кандыдатаў.

4. Абутковая фабрыка (980 рабочых). Склад організацыі 170 членаў партыі, ахоплена вучобай 50 чал.—30 проц., 100 кандыдатаў—ахоплена вучобай 40 чал.—40 проц. Програма зімовай вучобы ў сярэднім выканана на 30 проц. Зусім слаба і нерэгулярна ў групах і партшколах распрацоўваліся пытаньні бягучай політыкі. За ўвесь час распрацаваны былі пастановы Кастрычнікавага пленуму ЦК КП(б)Б і ліст тав. Сталіна.

З 157 ахопленых партвучобай 54 адсеяліся на працягу году. Наогул ахоп вучобай на ф-цы нездавальняючы. Існуючыя школы і групы працавалі нерэгулярна, соцспаборніцтва і ўдарніцтва было разгорнута недастаткова.

Ніякай работы не праводзілася па выдзяленьні і падрыхтоўцы пропагандыстаў з саміх рабочых. Па словах загадчыка Культпропу колектыву нават і нельга знайсьці кандыдатаў з рабочых для організацыйнай работы ў зьвязку з тым, што як склад рабочых, так і склад парторганізацыі вельмі малады. Умовы для

разгортваньня сеткі дрэнныя: адсутнічае памяшканьне для заняткаў. У зусім маленькіх пакойчыках займаюцца па 25—30 асоб. У пакоі нельга адчыніць вокны, няма ніякай вэнтыляцыі, нават лаўкі часта адсутнічаюць. Заняткі праводзяцца ў памяшканьні фабкому і бюро партколектыву і ў часе работы школ спыняецца работа гэтай організацыі. Бюро п/к не змагло стварыць належныя ўмовы для вучобы.

5. Д о м  У р а д у. Становішча партасьветы на пабудове дому ўраду нездавальняючае. Ячэйка не зьвярнула ўвагі на неабходнасьць паставіць на належную вышыню марксысцка-ленінскае выхаваньне. Сярод членаў і кандыдатаў партыі і сярод рабочай масы ня было праведзена падрыхтоўчай работы па ўцягненьні ў сетку партасьветы. За ўвесь зімовы пэрыод работала 1 ППШ з ахопам 28 чал. (на пабудове было зімой 150 чал.). Склад ячэйкі 40 членаў і кандыдатаў, з іх на пабудове 20, з якіх 9 кандыдатаў.

У сучасны момант партасьвета на пабудове адсутнічае. Першапачатковая школа скончыла заняткі ў палове мая, а на летнія формы партвучобы не пераключылася. Партвучоба падменена тэхвучобай. У сучасны момант рабочых будаўнікоў каля 550 чал.

6. К о л е к т ы ў  М е н б у д у. І На 6 цагельных заводах, дзе працуе 350 чал. зараз ня існуе ніякіх школ, ці гурткоў (склад організацыі 16 членаў і кандыдатаў, і 15 комсамольцаў). Масавая работа амаль зусім адсутнічае (выкананьне прамфінпляну: красавік—10 проц., май—35 проц.).

Зімой існавала профшкола—18 чал. і ППШ—10 чал., заняткі часта зрываліся, вясной школы разваліліся. 2. Цэнтральная майстэрня (база) Менбуду. Рабочых 300, з іх 38 членаў і кандыдатаў партыі і 47 комсамольцаў. Сакратар партколектыву т. Фіш заявіў, што на гэтым вучастку справа абстаіць добра, што ёсьць саўпартшкола, ППШ, тэхгурткі, а на справе ППШ ня было і няма, тэхгурток зімой спыніў работу. У ВСПШ заняткі часта зрываліся.

7. Групком № 6 і Рабачком № 1. Усяго рабочых і служачых—789 чал. Зімой было 550 чал. Склад у абедзьвюх партячэйках—75 членаў і 22 кандыдаты. 80 чал. комсамольцаў. Спэцыяльнага ўліку партасьветнай работы з новымі папаўненьнямі партыі амаль што не вялося. Культпроп партколектыву амаль нічога не рабіў. Каля паловы кандыдатаў партасьветай не






ИНВ№ 953 Г. № 100 Ж

ахоплены. СПШ II курсу распалася 28/II, СПШ І-га курсу па сьпісу—25 чал., займалася пад канец 2—4 чал. Існаваў яшчэ тэхнічны гурток, які распаўся. Парткіраўніцтва сеткай было нездавальняючае. Культпроп парткалектыву не працаваў, яго замяняў стараста па групкоме 6 і рабачкоме 1, а па іншых вучастках і адзінках уліку і кантролю з боку парткалектыву ня было. Школы спынілі работу без падагульненьня. У часе абсьледваньня выявілася «очковтирательство» з боку сакратара парткалектыву т. Фіша і старасты тав. Тарасевіча. Так т. Тарасевіч заявіў, што ўсе школы займаліся 5, 8, 13, 15, 18 мая, на самой справе 5/V заняткаў ня было (брыгадзір быў ачавідца) 13, 15 і 18 таксама заняткаў ня было. Нават ня было каму адчыніць памяшканьне. Тав. Фіш інформаваў брыгадзіру аб тым, што праводзілася соцспаборніцтва сярод слухачоў, выявілася, што толькі 1 курс СПШ—яўр. аддз.—выклікаў на соцспаборніцтва іншыя групы, але апошнія на гэта нават не адказалі і яўр. аддзяленьне на гэтым супакоілася. Зусім слабы ўдзел прымаў нізавы друк. Праверка ведаў слухачоў (у часе гутаркі з імі) паказала, што з 13 чал. розных школ толькі 2 нешта ведалі аб лісьце т. Сталіна. Ніхто не адказаў на пытаньне аб вялікадзяржаўным шовінізьме. Апошнія пастановы ЦК і СНК не прапрацаваны.

7. Вагонарамонтны завод «Полымя Рэволюцыі»—(880 рабочых і служачых).

ППШ пачала работу 25/IX са складам слухачоў—10 чал. 15/XII ужо лічылася па сьпісу 47, але адсеялася з раней паступіўшых 20. Фактычна навучаліся ў школе на 1/II—32 г. 20 чал. (з іх членаў 2, кандыдатаў 12, б/п—8). У ВСПШ навучаліся 17 чал. (15 членаў, 2 кандыдаты). Усяго такім чынам займалася 41 чал. (з іх 17 членаў партыі, кандыдатаў—14) з 170 чал. організацыі (з якіх 50 кандыдатаў), або 24 проц., усёй організацыі (14 проц. членаў партыі і 30 проц. кандыдатаў). Пасьля рэорганізацыі па цэхавым прынцыпе было некаторае павялічэньне, але ў канцы сакавіка заняткі ў ППШ зусім спыніліся.

Тэхвучоба зімой была абязьлічана, займаліся ўсе разам, бяз уліку кваліфікацыі і спэцыяльнасьці. У пачатку мая тэхвучобу перабудавалі, але да гэтага часу заняткі былі ўсяго тры разы. Дырэктывы ГК аб пераходзе на летнія формы вучобы атрыманы 13/V—але парткалектыў іх не абгаварыў. Шмат-

тыражка за ўвесь навучальны год зьмясьціла толькі адну заметку аб партвучобе. Вынікі зімовай вучобы не абгавораны.

8. Завод «Комунар» (каля 800 рабочых), парторганізацыя 220 чал. (з іх 60 кандыдатаў). Зараз партасьвета на заводзе ня існуе. У зімовы час была адна кандыдацкая школа з ахопам 20 чал. і адна ППШ, з ахопам 30 чал., але-ж наведвалі 5—6 чал. На заводзе партасьвета падменена тэхнікумам. Партсетка ўжо ў сакавіку спыніла сваю работу. У тэхнікуме, які ахапіў 220 чал., на 1/VI—асталося 120, 100 чал.—адсеялася. Гісторыю партыі і політэкономію праходзілі ў больш вышэйшых групах. Політдысцыпліны ў тэхнікуме былі пастаўлены нездавальняюча. Ніякай падрыхтоўчай работы па пераходзе на летнія формы вучобы ня зроблена.

9. На торфазаводзе

Партвучоба яшчэ зусім не разгорнута. Неабходна пачаць організацыю сеткі. Гэта спазьненьне сьведчыць аб тым, што парторганізацыі сэзонных работ не атрымлівалі сваячасова здавальняючай дапамогі і кіраўніцтва.

10. Служба цягі (рабочых 540 чал.).

Організацыя: членаў — 132, кандыдатаў — 40, комсамольцаў—97. Вучыцца: членаў—20, кандыдатаў—12. ППШ існавала з сьнежня, распалася ў лютым. Ёсьць гурток бягучай політыкі пры партгабінэце, але ўлік наведваньня не вядзецца.

11. Партасьвета на буйнейшай ф-цы «Кастрычнік» (1.500 рабочых) сорвана.

Усё гэта гаворыць аб неабходнасьці тэрмінова разгарнуць вялізарную работу па ўзмацненьні партыйнай сеткі.

**Д. О.**

## СУПРОЦЬ НЕДААЦЭНКІ РАБОТЫ ПРОПГРУП

Пропгрупы ЦК КП(б)Б накіраваны ў раёны для работы па падрыхтоўцы пропкадраў, для сыстэматычнай работы з кіраўнікамі школ, правядзеньня розных курсаў, наогул узмацненьня работы па партвыхаваньні.

Здавалася-б, раённае парткіраўніцтва павінна стварыць для іх работы адпаведныя ўмовы, усімі мерамі садзейнічаць ім у выкананьні плянаў, сапраўды выкарыстаць поўнасьцю волыт і веды тт., каб падняць на вышэйшую ступень справу марксысцка-ленінскага выхаваньня ў раёне.

Але, нажаль, гэта не заўсёды так.

Некаторыя пропгрупы пішуць ня толькі аб недастатковым садзейнічаньні, але нават аб тормазах у рабоце.

І сапраўды, як можна інакш назваць невыкарыстаньне членаў пропгрупы па прызначэньні.

Так, з Асьвейскага раёну нам піша кіраўнік групы: «Прыехаўшы ў Асьвею, я пропгрупы ЦК, як гэткай, не знайшоў, бо яна ўжо рассасалася ў апараце раёну, а іменна, мой намесьнік, які быў фактычным кіраўніком пропгрупы да майго прыезду, тав. Лукашэвіч, быў прызначаны пастановай бюро РК ад 26-га красавіка загадчыкам хаты-чытальні і сакратаром Сухарукаўскай ячэйкі КП(б)Б... Трэці член пропгрупы, тав. Сьцяпанава, амаль ўвесь час выконвала работу па правядзеньні контрактацыі».

Лельчыцкая група паведамляе: «Мы працавалі да гэтага часу таксама не па сваёй галіне таму, што нам стварылі такія ўмовы, што прыходзілася праводзіць, з аднаго боку работу раённага пропагандыста, а з другога боку, кампанейскую работу... пропагандыст, які лічыцца загадчыкам партгабінэту, таксама не скарыстоўваецца на сваёй рабоце».

Аб тым, як некаторыя РК садзейнічаюць правядзеньню ў жыцьцё плянаў работы пропгруп, з дастатковай яснасьцю сьведчыць наступная вытрымка з таго-ж лісту:

«Узаемаадносіны культпропу з пропгрупай самыя найгоршыя, пляны нашай работы культпропам адхілены, пакуль быў прыняты толькі адзін пункт аб організацыі школы-перасоўкі, і гэта ня выканана таму, што ні адзін слухач не зьявіўся. Калі мы запыталіся, чым тлумачыцца няяўка і зрыў школы, культпроп кажа: «І добра, што не зьявіліся, бо скора веснавая работа пачнецца». Наогул трэба сказаць, што ніякай дапамогі з боку РК ня было».

Тт. з Асьвейскай групы таксама скардзяцца на слабую організацыйную работу па падрыхтоўцы курсаў у ячэйках, дзякуючы чаму прыходзілася дарэмна траціць час.

Такія адносіны да работы пропгруп ЦК ні ў якім разе нельга лічыць нормальнымі.

Опортуністычнае супроцьстаўленьне гаспадарча-палітычных кампаній—пропагандысцкай рабоце яшчэ ня зжыта.

Аб гэтым ясна сьведчыць прыведзены вышэй адказ Лельчыцкага заг. культпропу РК, аб гэтым сьведчыць невыкарыстаньне работнікаў пропгрупы па прызначэньні.

Неабходна, каб РК не дапускалі недаацэнкі работы пропгруп і стваралі для гэтай работы спрыяючыя ўмовы.

# ПРОГРАМЫ І МЭТОД РАСПРАЦОЎКІ

## ВУЧЭБНЫ ПЛЯН 10 ДЗЁННЫХ КУРСАЎ-КОНФЭРЭНЦЫЙ НІЗАВОГА ПАРТАКТЫВУ ЗАВОДАЎ, КОЛГАСАЎ І САЎГАСАЎ

Зьмест работы курсаў вызначаецца наступнымі момантамі: курсы павінны дапамагчы нізавому партыйнаму актыву колгасаў з максымальнай гібкасьцю, конкрэтнасьцю, разгарнуць работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, па арганізацыі працы ў колгасах, па выкананьні і перавыкананьні плянаў севу, уборкі і загатовак, разгортваньні колгаснага гандлю, павялічэньні таварнасьці колгасаў, па перавыхаваньні шырокіх мас колгасьнікаў у соцыялістычным напрамку, у барацьбе з дробнабуржуазнымі рвацкімі тэндэнцыямі ў колгасах.

Задача курсаў для нізавога актыву прамысловасьці і саўгасаў—садзейнічаць актыву ў яго рабоце па барацьбе за прамфінплян, за выкананьне 6 ўмоў т. Сталіна, за палепшаньне рабочага снабжэньня, за ўзмацненьне передавой ролі саўгасаў у справе соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі. Яны павінны мобілізаваць партактыў на перабудову партработы пановаму, на прымяненьне такіх форм і мэтодаў работы, якія-б цалкам адпавядалі патрабаваньням партыі «па-новаму работаць, па-новаму кіраваць».

Яны павінны ўзброіць партактыў на барацьбу з усякімі адхіленьнямі ад Ленінскай лініі партыі, на бязьлітаснае ўскрыцьцё і барацьбу з усімі ворагамі соц. будаўніцтва, якія цяпер абвастраюць сваё супраціўленьне пераможнаму соц. наступленьню.

У адпаведнасьці з гэтым, навучальны плян курсаў пабудаваны такім чынам, каб даць партактывісту паглыбленае разуменьне сучаснага этапу соцыялістычнага будаўніцтва, задач 2-й пяцігодкі і чарговых задач па выкананьні народна-гаспадарчага пляну 1932 г. і задач партыйна-масавай работы.

Па ўсіх пытаньнях курсаў Культпроп ЦК КП(б)Б распрацоўвае мэтодычныя заданьні з падрабязным указаньнем літаратуры.

Па другім пункце вучэбнага пляну курсаў неабходна скарыстаць мэтодычныя заданьні Культпропу ЦК аб 2-й пяцігодцы, аб выніках разьвіцьця прамысловаеьці за 1931 г. і задачах на 1932 г., якія вышлі раней.

Па пункце 4-м програмы трэба скарыстаць мэтодычную распрацоўку аб збожжа-жывёлазагатоўках і колгасным гандлі і адпаведныя разьдзелы распрацоўкі (у прыватнасьці аб рабочым снабжэньні), аб зьезьдзе профсаюзаў.

Па пункце 5-м програмы, скарыстаць распрацоўку на тэму «барацьба партыі на два фронты і задачы партбудаўніцтва».

Заняткі ў групах павінны весьціся такім чынам, каб максымальная сума ведаў была атрымана таварышамі актыўным шляхам. Гэтага можна дасягнуць праз мэтод разгорнутай гутаркі, абмен вопытам работы. Калі на курсах колгаснага ці саўгаснага актыву разглядаецца пытаньне аб арганізацыі працы ў колгасах, дык трэба, каб тут-жа на занятках былі заслуханы інформацыі тт., што і як было зроблена імі па гэтым пытаньні, тут-жа абгаварыць дадатныя, ці адмоўныя бакі з вопыту паасобных тт. Кіраўнік, маючы конкрэтны матэрыял, можа таксама больш конкрэтна паставіць работу сваіх курсаў, максымальна прыстасоўваючы яе да ўмоў работы паасобных прадпрыемстваў, колгасаў, саўгасаў.

Калі курсы праводзяцца ў цэнтры, дзе ёсьць колгас, або саўгас, можна на конкрэтным прыкладзе гэтага колгасу вывучыць асноўныя пытаньні партработы ў колгасе, саўгасе, прычым не абмяжоўвацца толькі нагляданьнем, а даваць курсантам пэўныя практычныя заданьні (напрыклад, праверыць, што зроблена парторганізацыяй колгасу па разгортваньні колгаснага гандлю і дапамагчы ў гэтай рабоце, як рыхтуецца парторганізацыя колгасу да ўборачнай кампаніі і т. д.).

Вялікія задачы, якія стаяць перад курсамі пры каротка-тэрміновасьці іх, патрабуюць выключнай чоткасьці і арганізаванасьці па ўсёй вучэбнай рабоце з боку адміністрацыі, выкладчыкаў і слухачоў курсаў.

Сваячасовы пачатак заняткаў, выключная дысцыплінаванасьць з боку слухачоў і выкладчыкаў, забесьпячэньне слухачоў неабходнымі заданьнямі і навучальнымі матэрыяламі павінны

забясьпечыць неабходную якасьць работы пры адпаведных тэмпах.

Уся работа курсаў павінна быць праведзена на аснове соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва паміж слухачамі курсаў і выкладчыкамі.

Мэтодычныя дапаможнікі, якія ўжо ёсьць:

1. „Вынікі разьвіцьця прамысловасьці ў 1931 г. і задачы на 1932 г."
2. „Аб другой пяцігодцы ў СССР"
3. „Барацьба партыі на два фронты і задачы партбудаўніцтва".
4. „Нацыянальная палітыка і барацьба партыі на 2 фронты ў нацыянальным пытаньні".
5. „Апошнія дырэктывы партыі і ўраду аб збожжа і жывёла-загатоўках, сельскагаспадарчым падатку і разгортваньні колгаснага гандлю".
6. „Аб арганізацыі сталых вытворчых брыгад у колгасах".
7. „Аб профсаюзах на сучасным этапе (да „вынікаў IX зьезду профсаюзаў)"
8. „Уборачнай—бальшавіцкія тэмпы".

Патрэбна будзе акуратна сачыць за выхадам вышэйуказаных распрацовак і своечасова іх выкупаць.

Апрача таго рэкомэндуем выпісаць і шырока выкарыстаць журнал «За ленінскую вучобу», першы нумар якога вышаў з друку і разаслан раёнам. Зараз выходзіць 2 і 3 нумары.

## НАВУЧАЛЬНЫ ПЛЯН 10-ЦІ ДЗЁННЫХ КУРСАЎ ГАРАДЗКОГА ПАРТАКТЫВУ

| | |
|---|---|
| 1. Усеагульны крызіс капіталізму. Нарастаньне прадпасылак рэволюцыйнага крызісу і барацьба Комінтэрну за рэволюцыйны выхад з крызісу . . . . . . | 10 гадз. |
| 2. Вынікі першай і чарговыя задачы другой пяцігодкі . | 15 „ |
| 3. Выкананьне народна-гаспадарчага пляну за 1932 г. і чарговыя задачы II палугодзья. . . . . . . | 20 „ |
| 4. Апошнія пастановы партыі і ўраду аб збожжа і мясанарыхтоўках і разгортываньні колгаснага гандлю і уборачнай кампаніі. . . . . . . . . | 10 „ |
| 5. Задачы партыйна-масавай работы на прадпрыемствах . | 25 „ |
| Усяго . . . | 80 гадз. |

## НАВУЧАЛЬНЫ ПЛЯН КУРСАЎ КОЛГАСНАГА І САЎГАСНАГА АКТЫВУ

| | | |
|---|---|---|
| 1. Усеагульны крызіс капіталізму. Нарастаньне прэдпасылак рэволюцыйнага крызісу і барацьбы комінтэрну за рэволюцыйны выхад з крызісу . . . . . . . | 10 | гадз. |
| 2. Вынікі першай і чарговыя задачы другой пяцігодкі . | 20 | „ |
| 3. Выкананьне народна-гаспадарчага пляну за 1932 г. і задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў . | 15 | „ |
| 4. Апошнія пастановы партыі і ўраду і задачы ўборачнай кампаніі; выкананьне і перавыкананьне пляну загатовак і разгортваньне колгаснага гандлю . . . . . | 10 | „ |
| 5. Чарговыя задачы партыйна-масавай работы ў колгасах і саўгасах . . . . . . . . . . . | 25 | „ |
| Усяго . . . . | 80 | газд. |

Програмна-мэтодычнае бюро

## ПРОГРАМА ПА ОРГАНІЗАЦЫІ І МЭТОДЫЦЫ ПАРТАСЬВЕТЫ ДЛЯ КУРСАЎ ПРОПАГАНДЫСТАЎ і ПАРТАКТЫВУ

### Аб'ясьняльная запіска

Курс «організацыя і мэтодыка партасьветы» зьяўляецца спэцыяльнай дысцыплінай для курсаў пропагандыстаў і ставіць задачай навучыць паднімаць пытаньні марксысцка - ленінскай тэорыі на бальшавіцкую вышыню, непарыўна зьвязваючы тэорыю з асноўнымі і чарговымі задачамі партыі, мобілізуючы на барацьбу за генэральную лінію партыі. Правільная організацыя практыкі курсантаў будзе зьяўляцца важнейшай умовай пасьпяховасьці курсу «організацыя і мэтодыка партасьветы». Брыгады курсантаў на час гэтай дысцыпліны павінны быць прымацованы да партшкол, гурткоў і рэзультаты іх работы падагульняцца на заключных конфэрэнцыях. Практычная работа можа быць прыкладна наступная:

#### Па першай тэме

1. Кіруючыся указанай літаратурнай, падрыхтаваць даклад і схэму к заключнай конфэрэнцыі па пытаньнях:

а) сувязі тэорыі з практыкай;

б) унядрэньне тэхнікі ў сетку партасьветы;

в) соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў сыстэме партасьветы.

2. Сіламі курсантаў правесьці даклады ў бліжэйшых прадпрыемствах, колгасах, саўгасах.

### Па другой тэме

1. Скласьці програмы абсьледваньня становішча і перабудовы партасьветы ў адпаведнасьці з лістом Стэцкага, па якіх правесьці абсьледваньне на прадпрыемствах, саўгасах, колгасах. Вывады абмеркаваць на конфэрэнцыі. На аснове атрыманага матэрыялу скласьці корэспондэнцыі ў газэты, скласьці плян работы на квартал.

2. Намеціць конкрэтныя мерапрыемствы ў справе пабудовы сеткі партасьветы для сваіх установ і комплектаваньня школ партыйцамі і беспартыйнымі (улічваючы конкрэтныя ўмовы свайго прадпрыемства).

3. Скласьці дагавары па соцспаборніцтве ў галіне вучобы паміж школамі, раёнамі.

### Па трэцяй тэме

1. Скласьці плян гутаркі, рабочы запіс па аднэй з распрацованых тэм іншай дысцыпліны (прыкладна па экономполітыцы, або чарговай тэме гуртка, школы) і правесьці па ёй жывую гутарку на курсах і ў бліжэйшых школах.

### Па чацьвертай тэме

1) Распрацаваць формы кіраўніцтва пропагандыстамі (мэтоды работы пропколектываў, сэмінараў на вытворчасьці).

2) Распрацаваць пытаньне аб тым, якімі павінны быць мэтодычныя распрацоўкі.

3) Як складаць заданьне і якім яно павінна быць.

Цэнтральным месцам курсу павінна быць практычная распрацоўка пляну заняткаў і правядзеньне жывой гутаркі, бо, як паказвае вопыт, гэта выклікае найбольшыя цяжкасьці.

Курс мэтодыкі павінен быць пачаты не пазьней, як пасьля прапрацоўкі аднэй трэці вучэбнага пляну курсу. Кіраўнік па

гэтым курсе сваім мэтодам павінен служыць узорам для пропагандыста. Уся програма разьлічана на 40 гадзін. Прыкладная разьбіўка па тэмах рэкомэндуецца наступная:

| | |
|---|---|
| 1-я тэма . . . . . | 6 гадзін |
| 2-я „ . . . . . . | 10 „ |
| 3-я „ . . . . . . | 14 „ |
| 4-я „ . . . . . . | 10 „ |

Да ўказанай у програме літаратуры неабходна прыцягнуць матэрыялы з апошніх нумароў журнала «Пропагандыста», «Ком. революции» і інш.

У адносінах правядзеньня курсу пажадана, каб кіраўнікі падзяліліся вопытам у журнале Культпропу ЦК КП(б)Б «За Ленінскую вучобу».

**Програмна-мэтодычнае бюро**

## Тэма 1. Значэньне рэволюцыйнай тэорыі ў гісторыі бальшавізму і чарговыя задачы марксысцка-ленінскага выхаваньня

Тэорэтычная барацьба—адна з форм рэволюцыйнай барацьбы. «Без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць і рэволюцыйнага руху» (Ленін). Непарыўнасьць тэорыі з практыкай—як адна з адзначаных рыс марксызму-ленінізму. «Тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна ня зьвязваецца з рэволюцыйнай практыкай, таксама як і практыка становіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй» (Сталін). «Тэорыя, калі яна зьяўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам моц орыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы, упэўненасьць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы». (Сталін). Марксызм ня догма, а кіраўніцтва да дзеяньня. «Тэорыя ёсьць вопыт рабочага руху ўсіх краін, узяты ў яго агульным выглядзе» (Сталін).

Ролю передавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, кіруемая перадавой тэорыяй. Рэволюцыйная сьвядомасьць бальшавікоў і «тэорыя стыхійнасьці опортуністаў». Бальшавізм, узьнікшы на гранітнай тэорэтычнай аснове марксызму, прарабіў гісторыю, якая па багацьці вопыту ня мае сабе роўнай у сьвеце» (Ленін). Гісторыя бальшавіцкай партыі—ключ да разу-

меньня і вырашэньня актуальных проблем социялістычнага будаўніцтва ў СССР і барацьбы сусьветнага пролетарыяту. Ліст т. Сталіна і значэньне барацьбы на тэорэтычным фронце супроць фальсіфікацыі гісторыі бальшавізму, супроць працягваньня трацкісцкай контрабанды. Непрымірымасьць марксысцка-ленінскай тэорыі да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі. Рашучая барацьба з правым опортунізмам—як галоўнай небясьпекай на даным этапе, з контррэволюцыйным трацкізмам, «левымі» загібамі, прымірэнцтвам і гнілым лібэралізмам.

Тэорыя і практыка ў бальшавіцкай пропагандзе на ўсім працягу гісторыі бальшавізму. Гуртковая пропаганда і спалучэньне з агітацыяй. Ленін як пропагандыст. II і III зьезд РСДРП аб пропагандзе. Скарыстаньне бальшавікамі легальных магчымасьцяй для пропаганды. Вучоба ў турмах царскай Расіі. Партвучоба ў СССР. Баявыя задачы партасьветы ў сьвятле агульных задач партыі ў рэконструкцыйны пэрыод. Месца партыйнай асьветы ў сыстэме партыйнай работы на сучасным этапе будаўніцтва. Партасьвета—баявая зброя ў барацьбе за генэральную лінію партыі на два фронты, актыўны памочнік партыі ў вырашэньні стаячых перад ёй задач, сродак, вырашчваньня партыйнага актыву і актыўных барацьбітоў социялістычнага будаўніцтва.

Асаблівасьці сучаснага этапу барацьбы за социялізм. Другая пяцігодка і задача выхаваньня сьвядомых барацьбітоў за социялізм. Новая абстаноўка ставіць задачу па-новаму кіраваць. «Усю работу будаваць так, каб партыйная організацыя ўвесь час была павернута тварам да вытворчасьці, тварам да выкананьня тых баявых задач, якія пастаўлены ўсёй політыкай і генэральнай лініяй нашай партыі» (Кагановіч).

Задача партасьветы—узброіць кожнага комуніста разуменьнем новых задач, выкаваць высокі тэорэтычны ўзровень, ідэйную ўстойлівасьць, уменьне кіраваць масамі ў новых умовах. Выхаваньне політычна пісьменных партыйна-вытрыманых бальшавікоў-ленінцаў, сапраўдных ударнікаў-перадавікоў на вытворчасьці з новых папаўненьняў партыі, комсамольцаў. Шырокае ўцягненьне ў партасьвету беспартыйных рабочых і колгасьнікаў. Дыфэрэнцыраваны падыход пры пастаноўцы марксысцка-ленінскага выхаваньня да розных груп рабочых у залежнасьці ад вытворча-бытавых умоў, асаблівасьцяй, узросту, узроўню іх агульнай адукацыі.

Увязка ўсіх зьвеньняў партасьветы з вытворчымі задачамі і з вывучэньнем тэхнікі. Задача—садзейнічаць у максымальнай меры тэхнічнаму ўзбраеньню слухачоў партсеткі, асваеньню вытворчага процэсу. Марксысцка-ленінскае выхаваньне, як больш шырокае паняцьце, чым партвучоба. Выхаваць у слухача навыкі: 1) на падставе агульна-тэорэтычных вывадаў намячаць практычныя задачы і ажыцьцяўляць іх, 2) сваю конкрэтную работу абагульняць да агульна-палітычных палажэньняў. Грамадзка-палітычная работа школ па заданьнях ячэек адзін з асноўных момантаў партыйнай пропаганды. Формы грамадзка-практычнай работы школ і слухачоў.

Соцспаборніцтва, як мэтод выхаваньня. Ударніцтва ў партвучобе. Бесьперапыннасьць у партвучобе. Неабходнасьць умацаваньня сыстэматычнага опэратыўнага парткіраўніцтва сыстэмай партасьветы.

ЛІТАРАТУРА:

Ленин, том IV „Что делать" (3-е выд.), стар. 378—408.
Сталин, „Об основах ленинизма", раз. II „Метод", гл. III „тэорыя".
Ленин, „Задачи союзов молодежи" том XVII (6-е выд.), стар. 313—329.
Сталин, „Письмо в журнал „Пролетарская революция".
Сталин, „Речь на конференции аграрников".
Постышев, „Очередные задачы марксистско-ленинского воспитания".
Журналы: „Пропагандист", „В помощь партучебе", „Ком. революция"—адпаведны матар'ял. „За ленінскую вучобу".

## Тэма II. Організацыя і сыстэма партасьветы

Сыстэма партасьветы і яе зьвеньні. Пабудова сеткі партасьветы ў 1931-32 г. і яе адмоўныя бакі. Перабудова партсеткі ў адпаведнасьці з лістом т. Стэцкага на 1932 г. Вытворчы прынцып пабудовы партвучобы ў горадзе і вёсцы. Характарыстыка сыстэмы: школа павышанай ступені для членаў і кандыдатаў партыі, якія маюць падрыхтоўку ў разьмеры кандыдацкай школы. 3-х месячная школа, абавязковая для кандыдатаў партыі. Організацыя гэтага зьвяна пры цэхячэйках, ячэйках саўгасаў, МТС, колгасаў.

Шасьцімесячная партшкола, марксысцка-ленінскія гурткі для членаў і кандыдатаў партыі, якія маюць падрыхтоўку ў разьмеры пачатковага зьвяна. Організацыя іх пры буйных цэх. ячэйках, вясковых РК, парткомах саўгасаў, МТС і колгасаў.

Сыстэма марксысцка-ленінскай вучобы маладых членаў, членаў і кандыдатаў КП(б)Б, як сродак завесьпячэньня пераходу слухачоў ад першапачатковых форм вучобы да сярэдняга і вышэйшага зьвяна.

Асноўным зьместам партвучобы павінна быць вывучэньне статуту і праграмы партыі і Комінтэрну, гісторыі бальшавізму, асноў экономічнай політыкі партыі, нацполітыкі, пытаньняў міжнароднага рэволюцыйнага руху (асабліва Польшчы і Заходняй Беларусі), пытаньняў умацаваньня абараназдольнасьці краіны, асноўных задач другой пяцігодкі і чарговых задач партыі, у прыватнасьці, задач рэалізацыі 6-ці ўмоў т. Сталіна, апошніх пастаноў ЦК і СНК аб збожжавых і мясных загатоўках і разгортваньні колгаснага гандлю, уборачнай кампаніі.

Сярэднія і вышэйшыя зьвеньні партасьветы, формы падрыхтоўкі партактыву. Анагадовая ВСПШ, разьлічаная на ахоп нізавога партактыву пры партшкомах буйных прадпрыемстваў, курсы актыву і інш. Двухгадовыя вячэрнія комвузы пры буйных прамысловых РК з аддзяленьнямі на буйных прадпрыемствах. Дэкадныя комвузы. Політычная роля кожнага са зьвеньняў і яго програма. Завочныя формы вучобы актыву. Новыя масавыя формы партвучобы: сэмінары ўдарнікаў, кароткатэрміновыя курсы нізавога актыву, гурткі бягучай політыкі, дэкадныя пяцідзённыя школы, ударныя дні вучобы, школы перасоўкі і т. д. Месца агульна-адукацыйных і спэцыяльных прадметаў у сыстэме партасьветы. Барацьба супроць падмены партшколы агульнай і тэхнічнай адукацыяй.

Бесьперапынны навучальны год. Бесьперапыннае комплектаваньне, організацыя школ і груп на працягу ўсяго году. Асаблівасьці вучобы ў летні пэрыод у горадзе і вёсцы, на новабудоўлях, торфараспрацоўках, лесараспрацоўках, дарожным будаўніцтве, транспорце, і т. д.

Растлумачальная і вярбовачная работа. Комплектаваньне школ з улікам дыфэрэнцыраванага падыходу. Дыфэрэнцыраваны падыход, прымяненьне да ўмоў прамысловасьці, транспорту, раёнаў сельскай гаспадаркі, вытворча-бытавых умоў, узросту, агульна адукацыйнай падрыхтоўкі і т. д. Шырошае ўцягненьне ў сетку партасьветы беспартыйных рабочых і колгасьнікаў, асабліва ўдарнікаў. Уцягненьне ў партвучобу жанчын.

Роля прапагандыстаў, партгабінэтаў, друку і інш. форм масавай работы пры комплектаваньні школ.

Барацьба з опортуністычнай недаацэнкай партасьветы. Адказнасьць парторганізацыі за пастаноўку партпрапагандысцкай работы.

Неабходнасьць штодзеннага конкрэтнага жывога опэратыўнага кіраўніцтва партасьветай з боку бюро парткомаў, цэхячэек, райкому.

Організацыйная падрыхтоўка вучобы. Барацьба з адсевамі, ненаведваньнем. Роля і задачы старасты школы, гуртка ў організацыі работы.

**ЛІТАРАТУРА**

Пастанова сакавіцкага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве.

„Всем Культпропам, Крайкомам, Обкомам и ЦК Нацкомпартий", ліст Стэцкага,

Ліст Культпропу ЦК КП(б)Б аб перабудове сеткі партасьветы.

Журнал „В помощь партучебе", № 4, 1932 г.

„Система партпросвещения", журнал „Пропагандист", за 1931 г.

„Система партпросвещения", журнал „В помощь партучебе", №№ 21—22 1930 г.

Пастанова ЦК УсеКП(б) „Аб партыйна-масавай рабоце ў цэху, брыгадзе".

Адозва „Пролетаркі" аб організацыі партасьветы, „Пропагандист", № 23 1931 г.; „В помощь низовому культпропу", журнал „В помощь партучебе". № 5-6, 1931 г.

„За марксистско-ленинское воспитание несет ответственность парторганизация", „Пропагандист", № 13, 1931 г.

№ 1, „За ленинскую учебу".

## Тэма III. Асноўныя мэтоды партыйнай пропаганды

Асаблівасьці аўдыторыі ў сетцы партыйнай асьветы ў горадзе і на вёсцы. Неабходнасьць вывучэньня слухачоў для вызначэньня мэтодаў работы.

Аб сыстэме прыёму, якія забясьпечваюць найбольш эфэктыўнае ўсваеньне слухачамі зьместу матэрыялу. Прышчапленьне слухачу навыкаў самастойнай навучальнай і грамадзкай работы на аснове актыўнай самадзейнасьці, накіраваньне яго на ажыцьцяўленьне, стаячых перад партыяй задач.

Бесьперапыннае ўскладаньне мэтоду ў залежнасьці ад падвышэньня ўзроўню слухачоў у напрамку да максымальна-самастой-

най работы. Жывая гутарка, пабудаваная па папярэдняй чытцы матэрыялу—асноўны мэтод заняткаў у пачатковай школе.

Асноўныя элемэнты гутаркі: цьвёрдая мэтавая ўстаноўка, плянавасьць гутаркі, выбар вузлавых пытаньняў і правільная іх растаноўка. Плян гутаркі. Мэтодыка пастаноўкі пытаньняў. Уцягненьне аўдыторыі ў актыўнае абгаварэньне пытаньняў. Вывады кіраўніка па разьдзелах і тэме цалкам. Скарыстаньне ў гутарцы ілюстрацыйнага матэрыялу—мясцовых фактаў, асабістага вопыту слухачоў. Паступовае ўскладненьне гутаркі. Пераход ад гутаркі к конфэрэнцыі па асноўных, або некаторых больш цяжкіх пытаньнях. Пытаньні і адказы слухачоў. Формы запісу пры прапрацоўцы. Скажэньне гутаркі і падмена яе пытальна-адказнай формай, бясплянавай гутаркай і т. д.

Гутарка-пераходнае зьвяно да разгорнутага ляболаторнага пляну. Ляболаторны мэтод—спосаб работы, накіраваны на вывучэньне рэволюцыйнай тэорыі і практыкі самастойна, па заданьні, пад кіраўніцтвам пропагандыста, на актыўна-крытычныя адносіны слухачоў да прапрацоўваемага матэрыялу. Разгорнутае яго прымяненьне ў сярэднім і вышэйшым зьвяне партасьветы.

Заданьне як вучэбны заказ слухачам, як элемэнт плянаваньня іх работы. Мэтодыка пабудовы заданьня ад ніжэйшых ступеняй работы да вышэйшых. Формы і структура заданьня. Зьвеньні работы ў сыстэме ляболаторнага мэтоду:

1) Уводныя заняткі, як выходны момант у мэтодолёгічным і мэтодычным інструктажы слухачоў. Элемэнты ўводных заняткаў. Мэтодыка правядзеньня ўводных заняткаў. Дыфэрэнцыраваны падыход да ўводных заняткаў.

2) Самастойная работа слухачоў—важнейшы момант ва ўсваеньні матэрыялу па заданьні. Прапрацоўка матэрыялу па заданьні, парадак гэтай прапрацоўкі. Брыгада—асноўная рабочая адзінка. Пісьмовае і вуснае афармленьне матэрыялу. Рабочыя запісы, разгорнуты плян, тэзісы, падрыхтоўка і абгаварэньне матэрыялу да конфэрэнцыі.

3) Консультацыі ў сыстэме ляболаторнага пляну. Індывідуальная, брыгадная, групавая консультацыя, іх формы. Мэтодыка правядзеньня консультацыі і прыёму заданьняў.

4) Конфэрэнцыі ў сыстэме ляболаторнага пляну. Конфэрэнцыя, як падвядзеньне выніку ўсваяемасьці слухачоў па распрацоўваемай тэме. Вырашэньне на конфэрэнцыі ўсіх незразумелых

пытаньняў для афармленьня чоткіх і ясных, бальшавіцка-вытрыманых вывадаў. Організацыйны бок работы ў часе конфэрэнцыі. Мэтодыка правядзеньня конфэрэнцыі.

Лябораторны плян, як мэтод прышчапленьня слухачом асноўных навыкаў самастойнай работы з кнігай і газэтай, навыкаў для завочнай вучобы.

Скарыстаньне ў лябораторным пляне ілюстрацыйнага матэрыялу, мясцовых фактаў, дыаграм, карты, мастацкай літаратуры, газэт, экскурсый і т. д. Элемэнты самастойнай работы над кнігай, газэтай пры лябораторным пляне. Разуменьне тэксту і работа над ім. Рабочы запіс, плян, конспэкт, тэзісы. Работа над некалькімі кнігамі, выдзяленьне галоўнага і інш.

### ЛІТАРАТУРА

Кантаровіч, „Памятка кіраўніка пачатковай комсамольскай політшколы" ІВБ 1932 г.

Халеяў, „Організацыя пэдагогічнага процэсу ў савпартшколах" Вучпэд сэктар, 1932 г.

Александров, „Как провести беседу", ГИЗ 1931 г.

Никитин, „Методы партийной пропаганды". „Пропагандист", № 27 1931 г

Минченко, „Лабораторный метод и применение его в сетке низового партпросвещения", „Пропагандист" № 5, 1930 г.

Корленко, „О методике постановки вопросов на беседах", „Пропагандист" № 28, 1931 г.

## Тэма IV. Кіраўніцтва пропагандыстамі і мэтоды работы па падвышэньні ўзроўню пропагандыстаў

Ленін аб ролі пропагандыста-настаўніка-выхавальніка. Ускладнёныя задачы сучаснага этапу социялістычнага будаўніцтва і ўзросшая політычная роля пропагандыста. Проблема пропагандысцкіх кадраў—«вузкае месца». Політычнае значэньне высоўваньня рабочых саўгасных і колгасных пропагандыстых і задачы іх падрыхтоўкі. Уменьне разьбірацца ў політычных, мясцовых і вытворчых пытаньнях—асноўная ўмова пасьпяховай работы пропагандыста. Дапамога пропагандысту ў падрыхтоўцы да заняткаў і пастаянным падвышэньні яго тэорэтычнага і мэтодычнага ўзроўню. Організацыя і работа пропколектыву, сэмінару на буйных прадпрыемствах, саўгасах, колгасах, як асноўная форма опэратыўнага кіраўніцтва пропагандыстамі.

Пэрыодычныя кароткатэрміновыя курсы-конфэрэнцыі па перападрыхтоўцы пропагандыстаў. Неабходнасьць дыфэрэнцыраванага падыходу ў кіраўніцтве пропагандыстамі. Сыстэматычная інформацыя пропагандыстаў па агульна-палітычных і мясцовых пытаньнях. Програма, як адна з форм кіраўніцтва пропагандыстамі; мэтод—дапаможнікі, падручнікі для слухачоў і іх скарыстаньне. Габінэт—на дапамогу прапагандысту. Журналы «Пропагандыст», «Ком. революция», «В помощь партучебе», «За ленінскую вучобу», як дапаможнікі прапагандысту. Асьвятленьне свайго вопыту ў друку для перанясеньня ў іншыя школы.

Падрыхтоўка прапагандыстаў к чарговым заняткам. Складаньне цьвёрдага пляну занятак. Падрыхтоўка матэрыялу к заняткам і практычных заданьняў для слухачоў. Рабочы запіс пропагандыста і мэтоды яго складаньня.

Рашучая барацьба з няўважлівымі адносінамі пропагандыстаў да падрыхтоўкі к заняткам.

### ЛІТАРАТУРА

Ленін, т. XIV, вып. 1, стар. 118—119 „Письмо к слушателям школы на Капры".

Чапраков, „О некоторых формах и методах руководства пропагандистами" „Пропагандист", № 3, 1932 г.

Пацёмкін, „О пяти формах руководства пропагандистами", „Пропагандист", № 7—8, 1932 г.

Іофэ, „О трехдневнике пропагандистов"—там же.

Чапраков, „Рабочая запись пропагандиста", „Пропагандист", № 4, 1932 г.

„Ответы на статью Чапракова". „Пропагандист", № 11—12, 1932 г.

## ПРОГРАМА ПА ПАЛІТЫЧНАЙ ЭКОНОМІІ ДЛЯ КУРСАВАЙ СЕТКІ НІЗАВОГА ПАРТЫЙНАГА АКТЫВУ І ПРОПАГАНДЫСТАЎ

### Уступныя заўвагі

Палітычная экономія Маркса, Энгельса, Леніна ў вузкім сэнсе зьяўляецца навукай аб законах ўзьнікненьня, разьвіцьця і гібелі капіталізму і прадстаўляе адну з самых важных састаўных частак марксысцка-ленінскай тэорыі соцыялістычнай рэволюцыі. Асновапаложнікі марксызму-ленінізму разглядалі палітычную экономію як сугуба партыйную навуку, як навуковую крытыку буржуазнага грамадзтва і яго ідэолёгаў, як навуку, якая ўскрывае законамернасьць капіталізму і паказвае пролетарыяту яго ўсясьветна-гістарычную ролю клясы, прызванага зьнішчыць у рэволюцыі

капіталізм, эксплёатацыю людзей, пабудаваць грамадзтва соцыялістычнае, бясклясавае. Выкладаньне палітычнай эканоміі павінна, у поўнай адпаведнасьці з вучэньнем Маркса, Леніна і Сталіна аб сувязі тэорыі і практыкі, увязваць проблемы палітычнай эканоміі з сучаснымі палітычнымі і рэвалюцыйнымі задачамі барацьбы сусьветнага пролетарыяту, партыі, Комінтэрну і, у сваёй крытыцы капіталізму, апірацца ня толькі на вопыт сучаснага «паміраючага капіталізму» (Ленін), але і на вопыт будаўніцтва соцыялізму ў Савецкім саюзе. Выкладаньне палітычнай эканоміі павінна процістаўляць законам капіталізму законы разьвіцьця новага грамадзтва, законамернасьці савецкай гаспадаркі і тым самым вастрэй падкрэсьліць усю клясавую супярэчнасьць капіталізму, барацьбу дзьвюх сыстэм і ўсеагульны крызіс капіталістычнай сыстэмы. Такое прыцягненьне матэрыялу па савецкай эканоміцы, аднак, ні ў якім разе не адмяняе сыстэматычнага курсу тэорыі савецкай гаспадаркі, а толькі падрыхтоўвае да праходжаньня гэтай тэорыі як састаўной часткі палітычнай эканоміі ў шырокім сэнсе слова.

Навуковая крытыка буржуазнага грамадзтва, будучы ў цяперашні час момантам барацьбы дзьвух сыстэм, уключае ў сябе выкрыцьцё прыхільнікаў (прамых і скрытых) капіталізму. Адтачанае ўсваеньне дыялектыка-матэрыялістычнага рэволюцыйнага мэтоду Маркса—Леніна—Сталіна немагчыма бяз гэтай крытычнай работы. Адсюль задача палітычна завастрыць навучэньне ўсіх проблем шляхам крытыкі сучаснай буржуазнай палітычнай эканоміі і, у першую чаргу, яе састаўной часткі—рэвізіяніцкай соцыял-фашысцкай палітэканоміі, прыцягваючы пры гэтым да выкладаньня шматлікія выказваньні Леніна, Сталіна, у іх барацьбе супроць спроб рэвізіі марксызму. Крытыка і паказ сувязі мэханістычнай і ідэалістычнай мэтодолёгіі з контррэволюцыйнай практыкі II Інтэрнацыяналу і трацкізму, з практыкай усякага роду ўхілаў; крытыка люксэмбургіянства, паказ ролі ленінізму ў барацьбе з опортунізмам усіх адценьняў, барацьба за ленінскі этап у палітычнай эканоміі, павінны служыць у поўнай адпаведнасьці з указаньнямі т. Сталіна ў яго лісьце ў рэдакцыю «Пролетарской Рэволюции» сродкам партыйнага выхаваньня ў духу непрымірымасьці да ворага, і ўзбраеньня слухача ў барацьбе за генэральную лінію партыі.

Гэта програма ня ставіць сабе задачай выкладаньне поўнага

курсу палітычнай экономіі. Будучы разьлічана на 60 гадзін, яна абмяжоўваецца толькі некалькімі проблемамі, якія даюць слухачу кіруючую нітку для больш паглыбленага марксысцка-ленінскага разуменьня зьяў эпохі ўсеагульнага крызісу капіталізму і соцыялістычнай рэвалюцыі. У залежнасьці ад падрыхтоўкі слухачоў, кіраўнік можа скарачаць указываемую літаратуру.

## Уступ кіраўніка па ўсім курсе

### Што такое палітычная экономія?

Продукцыйныя сілы, вытворчыя адносіны і соцыяльна-экономічная формацыя. Проблема зьмяненьняў формацый у пастаноўцы марксызму-ленінізму, з аднаго боку, і соцыял-фашызму— з другога. Палітычная экономія ў шырокім і вузкім сэнсе слова. Палітычная экономія і тэорыя савецкаў гаспадаркі. Гістарычная крыніца марксызму і дыялектыка-матэрыялістычны мэтод палітычнай экономіі Маркса—Леніна.

Барацьба двух сыстэм, сучасны экономічны крызіс і задачы выкладаньня палітычнай экономіі. Партыйнасьць палітычнай экономіі і барацьба на два франты за ленінскі этап, як састаўны момант барацьбы дзьвюх сыстэм. Экономічная дыскусія 1927—29 г. і роля партыі ў разгроме контррэволюцыйнай рубіншчыны і мэханіцызму.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКА

Маркс, „Введение и предисловие к критике политической экономии".

Энгельс, „Анти-Дюринг", аддзел II, „Полит. экономия", § 1.

Ленин, „Три источники марксизма". „Замечания на книгу Бухарина" „Экономика переходного периода в XI Ленинском сборнике (асабліва стар. 349, К. Маркс, том XVIII).

Малютин и Борилин, жур. „Большевик, № 2, за 1930 г.

Абезгауз, Дукор, „Очерки по методологии полит. экономии" раз. 2, 3, 4, 5, 8 і 10.

Дукор і Ноткин, арт. у жур. „Большевик" № 18, за 1929 г. „Политическая экономия под ред. Кофмана". ч. I—II (2-е выданьне).

## Тэма I. Тавар і грошы (8 гадзін)

Агульная характарыстыка таварнай вытворчасьці ў адрозьненьне ад натуральнай і соцыялістычнай. Супярэчнасьць паміж грамадзкай і прыватнай працай—асноўная супярэчнасьць тавар-

най вытворчасьці. Простая таварная вытворчасьць як аснова для ўзьнікненьня таварна-капіталістычнай вытворчасьці. Ленін і Сталін аб суадносінах паміж простай таварнай вытворчасьцю і капіталізмам ва ўмовах капіталізму і ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту. Крытыка трацкістаў і правых. Коопэрацыйны плян Леніна. Крытыка Рубінскага адмаўленьня простай таварнай гаспадаркі як гістарычнай базы капіталізму.

Тавар як элемэнтарная клетачка таварна-капіталістычнай вытворчасьці. Супярэчнасьць тавару; тавар як спажывецкая вартасьць і як вартасьць. Двоістасьць працы ў таварнай гаспадарцы. Конкрэтная і абстрактная праца. Простая і кваліфікаваная праца. Выражэньне вартасьці данага тавару праз другі тавар. Менавая вартасьць. Разьвіцьцё формы выражэньня вартасьці тавару; прастая, разгорнутая, усеагульная і грашовая форма вартасьці. Вартасьць і цана. Таварны фэтышызм. Двоісты характар працы. Тавар і грошы, як выражэньне асноўных супярэчнасьцяй, анархічнасьці і неорганізаванасьці таварнай гаспадаркі. Плян, як выражэньне соцыялістычнага характару разьвіцьця савецкай экономікі і як зброя пабудовы соцыялізму. Плян на розных этапах. Прынцыповае адрозьненьне законарменасьцяй таварна-капіталістычнай і савецкай гаспадаркі ў конкрэтным праяўленьні сусьветнага экономічнага крызісу, з аднаго боку, і выкананьня першай і складаньне другой пяцігодкі—з другога. Крытыка ідэалістычнай (з боку контррэволюцыйнай рубіншчыны) і мэханістычнай (багданаўска-бухарынскага закону працоўных затрат) рэвізіі Марксавай тэорыі вартасьці, а таксама шкодніцкіх спроб перанесьці законамернасьці капіталізму на савецкую гаспадарку (Базараў, Кандрацьеў, Юроўскі і інш.).

Сутнасьць грошай. Паходжаньне грошай. Якасная асаблівасьць тавару-грошай. Грошы ў пераходную эпоху. Барацьба партыі супроць скажэньняў у пытаньні аб грошах СССР. Функцыі грошай. Бумажныя грошы. Інфляцыя, яе ўплывы на розныя клясы капіталістычных грамадзтваў.

**ЛІТАРАТУРА**

Леонтьев, „Капитализм и социализм" § 1 (для найменш падрыхтаваных).
„Политическая экономия под редакцией Кофмана
И. Ленин, „Карл Маркс", разьд. „Аб вартасьці".
Сталин, „Речь на конференции аграрников-марксистов к вопросам аграрной политики в СССР". Разьд. I і II ў зборн. „Вопросы Ленинизма".

Милютин и Борлин, „К разногласиям в политической экономии", жур. „Большевик" № 2, за 1930 г.

Маркс, „Капитал", т. I, разьд. 1, 2 і 3.

Для выкладчыкаў: Дукор, Ноткин, арт. журн. „Большевик", № 18 за 1929 г. § „Об обстрактном труде".

## Тэма II. Капітал, дадатковая вартасьць, зарплата

Ператварэньне простай таварнай вытворчасьці ў капіталістычную, а грошай у капітал. Выступленьне рабочай сілы як тавару. Вытворчыя адносіны паміж капіталістамі і рабочымі як асноўная супярэчнасьць капіталістычнага грамадзтва. Першапачатковае накапленьне капіталу як стварэньня прадпасылак для свабоднага разгортваньня капіталістычных вытворчых адносін, а іменна—монополізацыя ўласнасьці на сродкі вытворчасьці капіталістамі і пазбаўленьне непасрэдных вытворцаў сродкаў вытворчасьці і на гэтай аснове ператварэньне рабочай сілы ў тавар. Вартасьць і спажывецкая вартасьць рабочай сілы. Дадатковая вартасьць. Капіталістычная эксплёатацыя і яе адрозьненьне ад фэўдальнай. Азначэньне капіталу, гістарычны характар капіталу, пастаянны і пераменны капітал. Норма дадатковай вартасьці (норма эксплёатацыі) і маса дадатковай вартасьці. Вытварэньне дадатковай вартасьці як рухаючая сіла капіталістычнага спосабу вытворчасьці (крытыка соцыял-фашысцкага скажэньня марксавай тэорыі дадатковай вартасьці). Нашы дзяржпрадпрыемствы, як установы пасьлядоўна соцыялістычнага тыпу (крытыка трацкістаў у гэтым пытаньні). Рухаючыя сілы і фактары нашага разьвіцьця ў супроцьлегласьць капіталістычным. Два спосабы павялічэньня дадатковай вартасьці, высунутыя капіталізмам: абсолютная і адносная дадатковая вартасьць. Заработная плата, як ператвораная форма вартасьці і цаны рабочай сілы. Барацьба за даўжыню рабочага дня і зарплату. Трэд'юніонізм, «ультралевае адмаўленьне барацьбы за экономічныя патрабаваньні, экономічная і політычная барацьба пролетарыяту. Барацьба Комінтэрну і Профінтэрну на два франты ў пытаньнях профсаюзнага руху і экономічнай барацьбы. Коопэрацыя, мануфактура і буйная машынная вытворчасьць, як форма павышэньня адноснай дадатковай вартасьці. Іх капіталістычны характар. Машына, як зброя ўзмацненьня эксплёатацыі, як сродак памяншэньня зарплаты пры капіталізьме, і як сродак зьберажэньня працы, памяншэньня рабочага дня і павышэньня дабрабыту працоўных

пры соцыялізьме. Антогоністычны і абмежаваны характар разьвіцьця вытворчых сіл пры капіталізьме. Сучасная капіталістычная рацыяналізацыя. Крытыка соцыял-фашысцкай абароны капіталістычнай рацыяналізацыі. Крытыка праваўхілісцкай недаацэнкі капіталістычнай рацыяналізацыі і «лявацкіх» адносін да апошняй. Соцыялістычная рацыяналізацыя, яе рухаючыя сілы і соцыялістычныя формы працы.

Разьмеркаваньне дадатковай вартасьці паміж капіталістамі. Прыбытак і цана вытворчасьці.

**ЛІТАРАТУРА**

Падруч. „Леонтьев, „Капитализм и Социализм“ разьд. II, „Сущность капиталистической эксплоатации“, „Политическая экономия под. ред. Кофмана“, разьдз. II.

Маркс, „Капитал“, том I, разьдз. VIII, § I, разд. XIII, § 3.

Ленин, К. Маркс. Собр. сочин. 2 і 3 выданьне, том XVIII разьдз. „Добавочная стоимость“ стар. 17-24.

Ленин, „Собр. сочин“., т. III. „Развитие капитализма в России“ разьд. V § 5, разьд. VI § I., разьд. VII § I.

Ленин, „Что делать“ т. V, разьдз. III, § 1.

Ленин „Научная система“ выжимания поту“, т. XVI, выд. 2-е.

Сталин, „Вопросы ленинизма“. Речь с первой американской рабочей делегацией“, пытаньне 6-е.

Рубинштейн, „Капиталистическая рационализация“.

## Тэма III. Асноўныя супярэчнасьці капіталістычнага спосабу вытворчасьці

### 1. Усеагульны закон капіталістычнага накапленьня і становішча рабочай клясы

Што такое узнаўленьне? Узнаўленьне пастаяннага і пераменнага капіталу, як узнаўленьне капіталістычных вытворчых адносін. Узнаўленьне простае і расшыранае. Накапленьне, як ператварэньне часткі дадатковай вартасьці ў капітал. Распад дадатковай вартасьці на капітал і даход. Фактары, вызначаючыя разьмеры накапленьня. Крытыка тэорыі «ўстрыманьня» рабочага фонду. Рост арганічнага саставу капіталу, концэнтрацыя і цэнтралізацыя капіталу. Прамысловая рэзэрвная армія. Формы адноснага перанасяленьня, яго няўнікнёнасьць і неабходнасьць для капіталістычнага накапленьня. Крытыка Мальтуса. Уплыў рэзэрвнай арміі на зарплату і жыцьцёвы ўзровень пролетары-

яту. Уплыў крызісаў на абсолютнае і адноснае зьбядненьне пролетарыяту. Крытыка рэвізіёнісцкіх тэорый, якія адмаўляюць абсолютнае зьбядненьне рабочай клясы пры капіталізьме (Каўцкі і інш.). Памылкі т. Варгі па пытаньні аб жыцьцёвым узроўні пролетарыяту. Жыцьцёвы ўзровень пролетарыяту і барацьба рабочай клясы. Крытыка, так званага, «жалезнага закону» зарплаты. Супярэчнасьць паміж ростам вытворчасьці і спажываньнем рабочых мас, як аснова для клясавай узмацняючайся барацьбы паміж пролетарыятам і буржуазіяй. Няўнікнёнасьць пролетарскай рэволюцыі. Роля партыі. Крытыка тэорыі аўтоматычнага краху (памылкі Розы Люксэмбург). Ліквідацыя беспрацоўя, пераход на 7-гадзінны рабочы дзень, становішча рабочай клясы ў СССР, як адзін з важнейшых момантаў барацьбы дзьвюх сыстэм, ілюстраваць гэта на прыкладзе савецкай Беларусі з аднаго боку, і Заходняй Беларусі, Польшчы, з другога. Шкодніцкія тэорыі аб няўнікнёнасьці беспрацоўя ў СССР і зьвязаны з гэтым курс беларускіх шкоднікаў на «працаёмкія» галіны вытворчасьці.

### II. Супярэчнасьці паміж горадам і вёскай і аграрнае пытаньне

Выцякаючае з сутнасьці капіталізму аддзяленьне зямлі ад непасрэднага вытворцы. Капіталістычныя адносіны ў сельскай гаспадарцы і зямельная рэнта. Абсолютная і дыфэрэнцыяльная зямельная рэнта. Формы вырашэньня аграрнага пытаньня ў буржуазных рэволюцыях. Барацьба Леніна і бальшавікоў супроць кадэтаў, эсэраў, меншавікоў і іншых партый у аграрным пытаньні. Розныя формы рэнты. Узаемаадносіны паміж буйным капіталам і буйнай зямельнай уласнасьцю на розных этапах разьвіцьця буржуазнага грамадзтва і проблема нацыяналізацыі зямлі. Асаблівасьці разьвіцьця капіталізму ў сельскай гаспадарцы. Ленінскае вучэньне аб двух шляхох разьвіцьця капіталізму (амэрыканскі шлях і прускі) і аграрнае пытаньне. Дробнае земляробства ў сыстэме капіталізму. Перавагі буйнай вытворчасьці (супаставіць краіны капіталізму і СССР). Концэнтрацыя вытворчасьці, расслаеньне вёскі і разарэньне дробнай вытворчасьці. Галодная рэнта. Проблема аграрнага перанасяленьня. Крытыка тэорыі некапіталістычнага разьвіцьця вёскі пры капіталізьме (барацьба Леніна супроць народніка Давіда і інш.).

Эксплёатацыя шырокіх мас сялянства пры капіталізьме і яе формы. Крытыка тэорыі ўстойлівасьці дробнай вытворчасьці ў сельскай гаспадарцы. Пролетарыят і асноўныя масы сялянства. Значэньне аграрнага пытаньня для пролетарскай рэволюцыі. Крытыка недаацэнкі аграрнага пытаньня і няправільнай яго пастаноўкі ў Розы Люксэмбург. Аграрнае пытаньне ў Ленінскім вучэньні аб перарастаньні буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў пролетарскую. Тактыка Комінтэрну. Колёніяльная проблема і аграрнае пытаньне. Проблема ўзаемаадносін рабочай клясы і асноўных мас сялянства ў вучэньні Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна аб дыктатуры пролетарыяту. Коопэрацыйны плян Леніна і проблема зьнішчэньня кляс у СССР. Нацыяналізацыя зямлі ў СССР і яе значэньне для соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў СССР. Выказваньне па гэтым пытаньні т. Сталіна, на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў. Барацьба партыі супроць шкодніцтва (кандрацьеўшчыны, прышчэпаўшчыны і т. д.), трацкізму, правага і «левага» опортунізму ў аграрным пытаньні. Ленін і Сталін як тэорэтыкі аграрнага пытаньня.

## III. Узнаўленьне і крызісы

Узнаўленьне індывідуальнага і грамадзкага капіталу. Уплыў грамадзкага капіталу на два падразьдзяленьні. Сэнс гэтага надзелу. Умовы простага і расшыранага ўзнаўленьня. Вядучая роля першага падразьдзяленьня ў процэсе ўзнаўленьня. Крытыка політычна-шкоднай тэорыі раўнавагі. Крытыка тэорыі раўнавагі. Крытыка тэорыі рэалізацыі і накапленьня Розы Люксэмбург. Політычная шкоднасьць тэорыі Розы Люксэмбург. Антогоністычны характар узнаўленьня пры капіталізьме і неабходнасьць крызісаў. Крызісы, як рэзультат і форма руху сованупнасьці ўсіх асноўных супярэчнасьцяй капіталістычнага грамадзтва. Пэрыодычны характар крызісаў і яго прычына. Крызісы і разьвіцьцё капіталізму. Крызісы і становішча рабочай клясы. Крызісы прамысловыя і аграрныя. Расшыранае ўзнаўленьне ў СССР і проблема тэмпаў. Крытыка шкодніцкіх, трацкісцкіх, права-і «лева»-опортуністычных тэорый узнаўленьня ў СССР. Роля пляну. Прырода гаспадарчых цяжкасьцяй у СССР (цяжкасьці росту).

ЛІТАРАТУРА

Леонтьев, Развитие капиталистических противоречий", разьдз. III.
„Политэкономия под редакцией Кофмана", том I, разьдз. III, том II, разьд. V. (Воспроизводство и кризисы"), том II, разьдз. IV („Аграрный вопрос").
Маркс и Энгельс, „Комунистический манифест", разьдз. I і II. Программа Коминтерна", разьдз. I. „Программа ВКП(б)" агульная частка.
Маркс, „Капитал", том I, разьдз. 23, §§ 3 і 4.
Энгельс, „Анти-Дюринг". „Социализм", разьдз. II.
Ленин, „Аграрная программа социал.-демократии в революции 1905-7 гг." разьдз. III.
Ленин, „Аграрный вопрос и критики Маркса".
Сталин, „Вопросы ленинизма" (О трех основных лозунгах партии по крестьянскому вопросу).
„Год великого перелому", „К вопросам аграрной политики СССР", §§ 2, 3 і 4 „Ответ т. т. колхозникам".
„О правом уклоне в ВКП(б)", § 3 (пункт 6, „О крестьянстве"), „Отчет на XVI сезде партии", (разьдз. 1, § 3). „Письмо в редакцию" Пролетарская революция".
Яковлев, „Доклад на XVI партс'езде і VI с'езде советов".
„Сборник „Сухановщина, Кондратьевщина". Аб беларускім шкодніцтве і прышчэпаўшчыне гл. журн. „Соц. Будаўніцтва", № 7 за 1931 г. (артыкулы Вербы, Ноткіна і Бондара).

## Тэма IV. Імпэрыялізм і ўсеагульны крызіс капіталізму (12 гадзін)

Концэнтрацыя і цэнтралізацыя капіталу. Перарастаньне прамысловага капіталізму ў монополістычны. Утварэньне монопольных аб'яднаньняў капіталу. Віды монополій. Акцыонэрная форма. Новая роля банкаў. Фінансавы капітал. Роля дзяржавы. Імпэрыялізм. Ленінскае азначэньне імпэрыялізму (асноўныя прызнакі і іх характарыстыка). Загніваньне капіталізму ў эпоху імпэрыялізму. Монополія і конкурэнцыя ў эпоху імпэрыялізму. Крытыка соцыял-фашысцкіх тэорый організаванага капіталізму і ўльтраімпэрыялізму (Гільфэрдзінг, Каўцкі), іх контррэволюцыйны характар. Крытыка тэорыі організаванага капіталізму Бухарына. Крытыка тэорый аўтоматычнага краху капіталізму (Тэорыя імпэрыялізму Розы Люксэмбург), палітычная шкоднасьць гэтай тэорыі. Закон нераўнамернага разьвіцьця, абвастрэньне яго дзеяньняў у эпоху імпэрыялізму і разьвіцьцё ўнутраных і зьнешніх супярэчнасьцяй сусьветнага капіталізму. Барацьба за перадзел сьвету. Закон нераўнамернага разьвіцьця, загніваньня капіталізму і пабудова соцыялізму ў аднэй краіне.

Крытыка контррэволюцыйнага трацкізму па гэтым пытаньні. Усеагульны крызіс капіталізму, як фаза эпохі імпэрыялізму. Супярэчнасьці пасьляваеннага капіталізму і асноўныя моманты ўсеагульнага крызісу капіталізму. Барацьба двух сыстэм капіталізму і соцыялізму, як асноўная супярэчнасьць. Тры пэрыоды пасьляваеннага капіталізму. Трэці пэрыод, як пэрыод расхістваньня стабілізацыі капіталізму пры адначасовым бурным росьце соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Капіталістычная рацыяналізацыя і вялізарнае пагоршаньне жыцьцёвага ўзроўню пролетарскіх і шырокіх сялянскіх мас у краінах капіталізму. Контрнаступленьне пролетарыяту, беспрацоўе і т. д. Аграрны крызіс і разарэньне дробнага сялянства. Проблема рынку. Абвастрэньне супярэчнасьцяй паміж пераможцамі ў сусьветнай вайне, паміж пераможцамі і пераможнымі, паміж мэтрополіямі і колёніямі і залежнымі краінамі. Крытыка тэорыі дэколёнізацыі. Рэволюцыйны рух у колёніях і паўколёніях. Рэзкае абвастрэньне нераўнамернасьці разьвіцьця і падрыхтоўка новых войн. Фашызацыя буржуазных дзяржаў, як выражэньне абвастрэньня ўнутраных і зьнешніх супярэчнасьцяй капіталістычных краін, процэсаў загніваньня капіталізму ў эпоху ўсеагульнага крызісу капіталізму. Роля соцыял-фашызму ў фашызацыі буржуазных дзяржаў. Усеагульны крызіс капіталізму — эпоха войн і пролетарскіх рэволюцый. СССР, як база сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, як ударная брыгада міжнароднага пролетарыяту. Крытыка контррэволюцыйнага трацкізму ў пытаньнях пасьляваеннага разьвіцьця і разгортваньня пролетарскай рэволюцыі. Крытыка правых.

ЛІТАРАТУРА


Леонтьев, „Империализм—канун социальной революции", разьдзел IV, „Программа Коминтерна", разьдзел I і II.

Ленин, „Империализм", том XIX.

„ „Доклад на втором конгресе Коминтерна".

„ „Доклад на VIII с'езде партии о программе", том XXIV.

Сталин, Вопросы ленинизма". „Октябрьская революция и задачи русских коммунистов". „К вопросам ленинизма", разьдзел VI. („Вопрос о построении социализма в одной стране") „Доклад XVI с'езду, разьдзел „О международном положении".

Зборнік, „Организованный капитализм".

„ „Закат капитализма в троцкистском зеркале".

## Тэма V. Сучасны эканомічны крызіс, рэвалюцыйны ўздым і барацьба дзьвюх сыстэм (8 гадзін)

Агульная характарыстыка крызісу. Усеагульны крызіс капіталізму і сучасны крызіс капіталізму. Асаблівасьці сучаснага крызісу капіталізму. Усеагульнасьць, нябывалая глыбіня і працягласьць крызісу і іх прычыны. Перапляценьне прамысловага крызісу з аграрным. Становішча рабочай клясы, наступленьне капіталу і контрнаступленьне пролетарыяту. Рэволюцыянізаваньне дробнага сялянства ў радзе краін. Сучасны этап сусьветнага эконамічнага крызісу. Крэдытна-валютны крызіс. Перарастаньне эконамічнага крызісу ў крызіс палітычны. Рэволюцыйны ўздым і насьпяваньне прадпасылкі рэволюцыйнага крызісу ў паасобных краінах. Работа компартыі ў розных краінах. Абвастрэньне барацьбы дзьвюх сыстэм. Абвастрэньне ўнутры-імпэрыялістычных супярэчнасьцяй. Небясьпека вайны. Япона-Кітайская вайна. Роля Лігі нацый і II Інтэрнацыяналу. Барацьба супроць буржуазіі і соцыял-фашыстаў, супроць капіталістычнага выхаду з крызісу—за рэволюцыйны выхад.

### ЛІТАРАТУРА

Сталин, „Политотчет XVI партс'езду, разьдзел „О международном положении.

Мануильский, Компартия и кризис капитализму".

Ленский, „4-й год кризиса в Польше", „Ком. Инт." № 4, 1931 г.

Лазовский, „За контрнаступление пролетариата". „Тезисы и резолюция XI пленума Исполкома Коминтерна".

Тельман, „О некоторых теоретических и практических ошибках КПГ", „Большевик", № 22 за 1931 г.

Бах, „Мировой экономический крызис и революционный под'ем".

Артыкулы і цыфры ў „Правде" і „Большевике", „Коминтернационале", за 1932 г. аб сусьветным эконамічным крызісе і становішчы рабочай клясы.

Пятницкий, Артыкул у № 11—12 „Коммунистического Интернационала".

# ДЫРЭКТЫВЫ КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

## УСІМ РК КП(б)Б, КУЛЬТПРОПАДДЗЕЛАМ

## Аб рабоце ВСПШ

У дадатак да раней дадзеных дырэктыў Культпропу ЦК КП(б)Б аб організацыі сеткі партасьветы, сэктар прапаганды Культпропу ЦК КП(б)Б, у організацыі работы вячэрніх саўпартшкол прапануе кіравацца наступным:

1) Аднагадовыя вячэрнія саўпартшколы працуюць, выходзячы з установўкі: падрыхтаваць кадры для нізавой партыйнай, комсамольскай і савецка-гаспадарчай работы без адрыву ад вытворчасьці. Прычым пры падрыхтоўцы партыйных і комсамольскіх кадраў трэба прадугледзець падрыхтоўку пропагандыстаў для нізавых зьвеньняў партыйнай і комсамольскай асьветы.

2) Работа ВСПШ такім чынам павінна складацца з двух элемэнтаў:

а) даць адпавядаючую марксысцка-ленінскую падрыхтоўку ў галіне гісторыі партыі, ленінізму, політэкономіі і інш., і даць навык практычнай работы ў той галіне, дзе будзе працаваць слухач пасьля сканчэньня ВСПШ.

3) Выходзячы з вышэйуказанага палажэньня і трэба будаваць усю работу парторганізацый па кіраўніцтве ВСПШ, памятуючы, што гэта сярэдняя партыйная школа па падрыхтоўцы нізавога актыву, організуемая пры райкомах, партколектывах прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў.

4) Выходзячы з установўкі аб ВСПШ, трэба зараз-жа організаваць сетку ВСПШ, у райпарторганізацыях, даўшы для кожнай школы контрольныя лічбы аб комплектаваньні апошняй пэўнымі групамі слухачоў і выкладчыкаў.

Трэба пры комплектаваньні захоўваць наступныя правілы:

1) У групы па падрыхтоўцы партработнікаў і прапагандыстаў вярбуюцца выключна члены і кандыдаты КП(б)Б, члены

КСМ, скончыўшыя пачатковую партшколу, або якія маюць падрыхтоўку ў аб'ёме гэтай школы.

2) На савецка-гаспадарчую групу, апрача ўказаных ў пункце 1-м, вярбуюцца і беспартыйныя рабочыя і колгасны актыу.

Заняткі ў аднагадовых вячэрніх ВСПШ распачаць з 1/VIII-32 г. Разам з усім матэрыялам па рабоце ВСПШ паведаміце, хто выдзелен загадчыкам ВСПШ.

Слухачоў 2-х гадовай ВСПШ, якія былі на 1-м курсе, перавесьці ў аднагадовую ВСПШ.

Заг. сэктару пропаганды Культпропу ЦК КП(б)Б **Балабанаў**

## Усім культпропам ГК і РК КП(б)Б

Культпроп ЦК КП(б)Б зварочвае ўвагу ўсіх Культпропаў ГК і РК КП(б)Б на тое, што справа ўліку і кон'юнктурных назіраньняў, якія-б на хаду сыгналізавалі аб недахопах і прарывах на важнейшым вучастку, якім зьяўляецца марксысцка-ленінскае выхаваньне партыі і комсамолу, у Культпропах пастаўлена нездавальняюча. Весткі па такіх пытаньнях, як ахоп членаў партыі, кандыдатаў, комсамольцаў, беспартыйных, па паасобных відах вучобы як правіла ўстарэўшыя. Культпропы не вядуць опэратыўных зводак, не абагульняюць матэрыялы насьценных газэт, шматтыражак, раённай газэты, не заслухоўваюць сыстэматычна каротка-опэратыўных справаздач Культпропаў партколектываў. Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе:

1) Прымяняць мэтоды гібкай справаздачы—заслухоўваньне работніка, які кіруе партасьветай на прадпрыемстве, саўгасе, колгасе непасрэдна заг. Культпропам (або яго намесьнікам), з дачай тут-жа опэратыўнага заданьня, якое памагае ўзмацніць партасьвету. Матэрыялы, атрыманыя ў рэзультаце гэтага заслухоўваньня, перадаваць у раённы друк.

2) У абавязковым парадку організаваць складаньне, на 1-е кожнага месяца, опэратыўнай зводкі аб становішчы партасьветнай сеткі, у якой былі-б весткі аб ахопе членаў партыі, кандыдатаў, комсамольцаў і беспартыйных, паасобна, паасобнымі відамі сеткі партасьветы (школы з указаньнем тыпу, гурткі і т. д.),

па паасобных партколектывах і ячэйках прадпрыемстваў, саўгасаў, колгасаў.

Організацыя сталага ўліку патрабуе барацьбы з «очковтирательством», з нерэальнымі лічбамі, барацьбы з «мёртвымі душамі», якія толькі лічацца, а не наведваюць школы і гурткі. Вакол зводак, зьмяшчаемых у друку, організаваць на аснове соцспаборніцтва і ўдарніцтва барацьбу за першае месца ў зводцы. Практыкаваць пасылку раённай зводкі ў шматтыражкі і насьценныя газэты ячэек, асабліва тых, дзе справа з ахопам вучобай пастаўлена дрэнна.

Нам. заг. Культпропу ЦК КП(б)Б **Залатухін.**
Заг. сэктарам пропаганды Культпропу ЦК **Балабанаў.**

## ПРАВІЛЫ ПРЫЁМУ Ў АСЕНЬНІ НАБОР 1932 г. ВА ЎСЕБЕЛАРУСКІЯ САЎПАРТШКОЛЫ ГОМЕЛЮ, МАГІЛЕВА, ВІЦЕБСКУ

I. Усебеларускія саўпартшколы (Гомель, Віцебск, Магілёў) ставяць задачай падрыхтоўку партыйных кадраў на прапагандысцкую, савецка-гаспадарчую і газэтную работу ў нізавых зьвеньнях парторганізацыі (колгасныя, і саўгасныя ячэйкі, партколяктывы прадпрыемстваў, чыгункі, новабудоўляў).

II. Для выкананьня гэтых задач і максымальнага набліжэньня справы падрыхтоўкі кадраў да тых галін працы, куды рыхтуюцца работнікі, саўпартшколы організуюць аддзяленьні: Гомельскае СПШ: 1. Партыйна-савецкае, 2. Пропагандысцкае, 3. Газэтнае, 4. Комсамольскае, 5. Польскае, 6. Яўрэйскае. Магілеўская СПШ: 1. Партыйна-савецкае, 2. Пропагандысцкае, 3. Газэтнае, 4. Комсамольскае.

Віцебская СПШ: 1. Партыйна-савецкае, 2. Пропагандысцкае, 3. Комсамольскае, 4. Газэтнае, 5. Латыскае.

Увага 1: Комсамольскае аддзяленьне разьлічана на падрыхтоўку орг-і проправотнікаў буйных комсамольскіх колектываў прадпрыемстваў, колгасаў і саўгасаў з аднагадовым тэрмінам навучаньня, усе астатнія аддзяленьні—з 2-х гадовым тэрмінам навучаньня.

2. Аддзяленьне партыйна-савецкае рыхтуе работнікаў: орг., парт., агітмас., і савецка-гаспадарчых. Пропагандысцкае—прапагандыстаў для буйных прадпрыемстваў, саўгасаў і колгасаў.

Газэтнае—рэдактароў шматтыражак, другіх работнікаў рэдакцый раённых газэт і інш.

Комсамольскае і латыскае аддзяленьні ў Віцебскай СПШ пачынаюць працаваць з 1 студзеня 1933 г.

3. Паступаючыя ва ўсебеларускія саўпартшколы таварышы павінны адпавядаць наступным правілам прыёму:

а) На ўсе аддзяленьні СПШ (апрача комсамольскага) прымаюцца рабочыя і колгасьнікі, члены КП(б)Б, са стажам ня ніжэй 1-га году і вытворчым стажам ня ніжэй 3-х год.

Увага: У паасобных выпадках дапускаюцца кандыдаты партыі. На газэтнае аддзяленьне прымаюцца ў першую чаргу ўдарнікі, рабселькоры, члены КП(б)Б.

б) На комсамольскае аддзяленьне прымаюцца рабочыя і колгасьнікі, члены КСМ, са стажам ня менш 3-х год і вытворчым стажам ня менш 2-х год. Перавага аддаецца членам і кандыдатам КП(б)Б.

в) Ад паступаючых у саўпартшколы патрабуецца ўменьне бегла чытаць і пісаць, ведаць чатыры дзеяньні арытмэтыкі над цэлымі лічбамі, ауладаньне агульна-палітычнай падрыхтоўкай у аб'ёме 2-х гадовай ВСПШ, орыентацыя ў апошніх пастановах партыі, XVII партканфэрэнцыі, XIV зьезду КП(б)Б.

Увага: Курсанты завочных саўпартшкол прымаюцца на першы курс бяз іспытаў, а скончыўшыя 1-шы курс ЗСПШ—на 2-гі курс.

4. Адбор курсантаў ва ўсебеларускія саўпартшколы праводзіцца комісіямі, якія організуюцца пры ГК і РК КП(б)Б. Працу па адборы комісіі павінны скончыць да 15 ліпеня, да гэтага-ж тэрміну матэрыялы павінны быць прадстаўлены ў адпаведныя саўпартшколы.

5. Ад паступаючых патрабуецца прадстаўленьне наступных дакумантаў:

а) Камандыроўка ад гаркому, ці райкому КП(б)Б.

б) Анкета для паступаючых у СПШ, засьведчаная ГК РК КП(б)Б.

в) Характарыстыка, даная адпаведнай парторганізацыяй (ячэйка, партколектыў, ячэйка КСМ і г. д.).

г) Дакумант аб узросьце і стане здароўя.

д) Дакумант аб адносінах да вайсковай службы.

е) Падпіска аб тым, што правілы прыёму пастпаючаму вядомы.

6. Пры саўпартшколе ствараюцца мандатныя комісіі для пераглядy кандыдатур паступаючых і дапушчэньня на іспыты з прадстаўнікоў СПШ, прадстаўніка парткалектыву СПШ, гаркому КП(б)Б, гаркомолу і гарполітасьветы.

Мандатная комісія сваю работу праводзіць да 25 ліпеня, а з 25-га ліпеня да 30 верасьня саўпартшколы разгортваюць паўмесячную дасаўпартшкольскую падрыхтоўку.

Таварышы, залічаныя на саўпартшкольскую падрыхтоўку, у верасьні выклікаюцца на праверачныя конфэрэнцыі, дзе канчаткова вырашаецца пытаньне аб залічэньні іх курсантамі.

Увага: Менш падрыхтаваныя будуць выклікацца на месячную падрыхтоўку, добра падрыхтаваныя толькі на іспыты ў канцы верасьня.

7. Заняткі ў саўпартшколе пачынаюцца з 1 кастрычніка 1932 г.

Увага: Залічаным таварышом мясцовыя організацыі павінны прадставіць месячны адпачынак і пэнсію за месяц наперад (пастанова Наркомпрацы № 29—30 г.).

Праезд паступаючых за кошт тых, хто камандыруе, у абодвы канцы.

8. Школа прадстаўляе інтэрнат, харчаваньне, вучэбную плошчу, стыпэндыю. Сямейныя курсанты дадаткова атрымліваюць сямейную стыпэндыю ў залежнасьці ад іх утрыманцаў і матэрыяльнай забясьпечанасьці.

Увага: Школа не бярэ на сябе абавязак па прадастаўленьні кватэр сем'ям курсантаў.

9. З мэтай максымальнага набліжэньня падрыхтоўкі кадраў да тых галін вытворчасьці, дзе будуць працаваць курсанты, саўпартшколы організуюць падрыхтоўку, выходзячы з наступнага вытворчага прынцыпу.

Гомельская СПШ рыхтуе кадры па ўказаных вышэй аддзяленьнях для прамысловасьці і чыгункі.

Віцебская СПШ—для ільнаводчых раёнаў.

Магілёўская СПШ—для жывёлагадоўчых раёнаў.

10. Контыгенты на асеньні набор устанаўляюцца наступныя:

Гомельская СПШ—250 чал., з іх на комсамольскае аддзяленьне—40 чал., газэтнае—60 чал., партсавецкае (з нац. аддз.)—90 чал., пропагандысцкае—60 чал.

Віцебская СПШ—150 чал., з іх на комсамольскае—30 чал. (з 1 студзеня 1933 г.), газэтнае—30 чал., партсавецкае—30 чал., пропагандысцкае—30 чал., латыскае—30чал.).

Магілеўская СПШ—210 чал., з іх на комсамольскае—40 чал., газэтнае—50 чал., парт.-сав.—60 чал., пропагандысцкае—60 чал.).

11. Разьвёрстка для раёнаў у адпаведныя саўпартшколы разаслана па райкомах.

Заг. Культпропу ЦК КП(б)Б—**Чарнушэвіч.**
Заг. сэктару Пропаганды Культпропу ЦК КП(б)Б—**Балабанаў.**

---

**РЭДКАЛЕГІЯ** — ЗАЛАТУХІН. УЛАЗАЎ. СЯМЁНАЎ. ГРЫЦКЕВІЧ. КЛІМАЎ. ГУРВІЧ.

**АДКАЗНЫ РЭДАКТАР** — ЗАЛАТУХІН.

Адрас рэдакцыі: Менск, Чырвонаармейская, ЦКК КП(б)Б, пакой № 51



## ЗЬМЕСТ

